НАША НІВА

*Беларуская газэта* *Вільня №1, 1994*

**ЗАРЭЧЧА** Адам Кіркор толькі на нейкую хвіліну зайшоў у гэтае незвычайнае прадмесьце і тут жа выйшаў, нібы гнаны нейкім мэтафізычным страхам. Мост праз Вялейку, які аддзяляе Зарэчча ад «гэтага боку», звыклай для турыстаў Вільні, сымбалізуе пераход у іншасьвет... Тры эсэ пра Зарэчча, якія выйгралі конкурс прэстыжнай віленскай газэты «Šiaurės Atėnai», мы друкуем з дазволу яе рэдакцыі.

**ФРАНЦУСКІ НУМАР «НН»** Невядомае па-беларуску (і па-расейску) апавяданьне А.Камю, новыя пераклады Ш.Бадлера, адкрыцьцё Оскара Мілаша. Найбольш удалай містыфікацыяй О.Мілаша — паэта-містыка і гермэнэўтыка — лічылася тое, што ён нарадзіўся ў нейкай дзівоснай краіне на ўсходзе. Але гэта была праўда. О.Мілаш нарадзіўся на Беларусі... Усё гэта — у наступным нумары «НН».

# ВІЛЕНСКІ ПЛЯН



Споведзь

# ПАКАХАЦЬ, ПАЛАНІЦЬ, ЗАБІЦЬ...

Сяргей Шыдлоўскі

Мне з маленства падабаліся розныя старажытнасьці. Я йшоў па жыцьці сьпінаю наперад, а тварам да зіхоткіх глыбіняў мінуўшчыны. Так і павінен жыць сапраўдны археоляг, сапраўдны гісторык. Водар даўніны — моцны наркотык...

Я здавён ведаў, што кожная справа, нават самая бязглуздая, калі зьдзейсьніць яе пасьлядоўна й да канца, зробіць цябе Вялікім Чалавекам (не багатым, ня слынным, не ўплывовым, а проста Вялікім Чалавекам). І наадварот, — кожная разумная справа, рэалізаваная на 100%, будзе поўным вар'яцтвам. Максім Багдановіч усё гэта ведаў, але ўсё ж сьцьвердзіў: «Не пакідайма ніводнай кроплі на донцы!» А мы ж, калі да вар'яцтва, перапрашаю, да зьдзяйсьненьня мары застаецца адзіная кропелька, — спыняемся.

Гэтак вось і я капаў свае скарбы, утароплена ўглядаючыся ў земляныя разоры, пакуль не дайшоў да свае кроплі. Апошняй...

Гэта вельмі сумная гісторыя... Як і кожная гісторыя пра КАХАНЬНЕ. Жыцьцё такое кароткае, — і не заўважыш, як у цябе ня хопіць моцы на тваю апошнюю кроплю. Але сьмерць — гэта таксама апошняя кропля. Толькі ня мы самі выпіваем яе, але нехта, не спытаўшы, — выплёсквае.

Мая гісторыя адбывалася ў Эгіпце. Невытлумачальная туга, хутчэй нават прадчуваньне, зьмяшанае зь невыноснаю эгіпэцкай гарачынёй, вярэдзілі, выцягвалі мне душу, — спакойную, засяроджаную душу археоляга. Гэткага сур'ёзнага, вытрыманага археоляга.

Археоляг не павінен адчуваць ані тугі, ані сьпёкі — на тое ён і археоляг. Што скажуць людзі, калі ўведаюць, што нават археоляг — гэты рыцар навукі з рыдлёўкамі замест рук і гаршчком манэтаў замест сэрца, — таксама можа адчуваць тугу й сьпёку? Даведаўшыся пра гэта, яны зусім зьбіліся б з тропу й згубілі ўсе свае сьветапоглядныя перакананьні...

А можа гэта гены, мо якісь мой продак у дзясятым калене быў зацятым археоляганенавісьнікам? І вось цяпер яно выйшла мне бокам...

Але я сьцяў зубы і, не зважаючы ані на тугу, ані на сьпёку, ані на бунтоўныя гены, капаў, капаў сваю разорыну, усё шчыльней набліжаючыся да свае апошняе кроплі.

Хто яна была — можа, Клеапатра? Ці Нэфэрціці? А мо, сама багіня гісторыі Кліо? У яе былі вочы сырэны — адныя зрэнкі, — пакахаць, паланіць, забіць... Туга, сьпёка й я — вочы ў вочы зь ёю, зрэнкі сырэны. Апошняя кропля...

Археалягічныя раскопкі надзіва падобныя да працы скульптара. Скульптар адсякае ад мармуровае глыбі лішку, і перад зьдзіўленымі гледачамі паўстае шэдэўр. Гэтак і археоляг, — ён толькі здымае зь зямлі вонкавыя напластаваньні. Адзін таленавіты, а галоўнае, да апошняе кроплі пасьлядоўны скульптар калісьці зрабіў сабе стод, які назваў Галятэяй. Што было потым, ведаюць усе.

Хто яна — Клеапатра, Нэфэрціці, Кліо? Яе чорныя, вялізныя зрэнкі казалі мне: «Вось я, твая Галятэя. Археоляг, будзь пасьлядоўны, выпі сваю апошнюю кроплю».

Акалець у разорыне, назаўсёды падпасьці наркатычнаму водару гісторыі, зданям мінулага? Не...

Я пабег, кінуўшы рыдлёўку, — праз пяскі Эгіпэцкай зямлі, праз мора...

Чаму я пішу цяпер пра гэты ганебны момант майго жыцьця? А таму, што я зноў наблізіўся да апошняе кроплі.

Я яшчэ ня ведаю, — ці то я ўсё ж буду пасьлядоўны да апошняга, ці то зноў зьбягу... Таму й пішу — на раздарожжы, — каб адцягнуць час.

Я знайшоў свой ідэал — з плоці й крыві. Злыя прыгажуні мінуўшчыны й будучыні — прэч! І вы, інтэлігентныя лядашчыя разумніцы... І вы, тургенеўскія паненкі. Усе прэч! Я знайшоў свой ідэал. У яе вочы сырэны — пакахаць, паланіць, забіць... Чорныя, расчыненыя зрэнкі.

# Дзёньнік прыватнага чалавека



Калі б жыцьцё мы разглядалі як раман, то з падзеяў апошняга часу, якія адбыліся на яго старонках, найбольш уражвае — гібель Гамсахурдзіі. Два гады таму ў «Нашай Ніве» было надрукаванае эсэ Ўладзімера Арлова. Яно называлася: «Гамсахурдзія — наш чалавек».

Мой вобраз гэтага чалавека зьлеплены з разуменьня ацэнак маскоўскае тэлевізіі наадварот, зь недаверу да Шэварднадзэ, які аднолькава шчыра кіруе дыямэтральна процілеглымі ўтварэньнямі — кампартыяй Грузіі, савецкім МЗС і незалежнай Радзімай, — і з адчуваньня жывога чалавечага пачатку. Гамсахурдзія адшукваецца ў шэрагу разумных людзей, якія прыйшлі ў палітыку замест тупых агрэгатаў брэжнеўскае пары. Яны прынесьлі з сабой зьмены і ўзначалілі свае народы, якімі раней кіравалі паслухмяныя неантропаморфныя істоты.

Гэта Масква распаўсюдзіла была на колішніх землях імпэрыі традыцыйны для сябе тып непрыступнага чыноўніка — чалавека без маралі, бяз комплексаў і недахопаў, якому ўсё гэта замянілі ідэйныя перакананьні. І сёньня маскоўскія палітыкі — ельцыны, сабчакі, жырыноўскія непазьбежна ператвараюцца ў такія непрыступныя сэйфы, пра якіх зусім ня хочацца казаць «наш».

Гамсахурдзія адшукваецца ў іншым шэрагу: Гавэл, Валэнса, Ландсберг, Дудаеў... Кіраўнікі, побач зь якімі стала можна стаяць і гаварыць кожнаму. Для чалавека, выхаванага піянэрскімі лінейкамі, прэзыдыюмамі камсамольскіх сходаў і вайсковымі парадамі, гэта рэч зусім неверагодная — размаўляць з Прэзыдэнтам.

Яны рабілі памылкі, але й несьлі найперш маральную адказнасьць за свае справы. У адрозьненьне ад Шэварднадзэ, учынкі якога разглядаюцца ў плоскасьці палітычнае мэтазгоднасьці, а не маралі. Сотні забітых па віне Шэварднадзэ — гэта ягоны посьпех, калі ўзяты горад, і ягоны пралік, калі горад ня ўзяты. Кожны забіты па віне Гамсахурдзіі ў любым выпадку фіксуецца як ягонае асабістае злачынства. Гэта сьлёзы маці й пяць галодных сіротаў, чалавечая трагедыя. Грошы, якія ўзяў Шэварднадзэ, з пункту гледжаньня палітычнае мэтазгоднасьці, — узяла дзяржава, цэнтральным вінтом у апараце якой зьяўляецца прэзыдэнт. Грошы, якія ўзяў Гамсахурдзія, — прысвоіў, скраў, «грабануў» Гамсахурдзія. Калі б Гамсахурдзія адабраў уладу ва ўсенародна абранага Шэварднадзэ, гэта быў бы пуч, гвалт, бандыцкі пераварот. Але адбылося наадварот і, паводле палітычнае мэтазгоднасьці, ніхто не акцэнтуе ўвагу на гэтым «дробным парушэньні канстытуцыі», на выгнаньні законнага прэзыдэнта — Гамсахурдзіі.

Людзі ягонага складу самі абралі сабе гэты крыж — маральную палітыку. На прасторах, дзе каварна канае імпэрыя, ён ператвараецца ў крыж мэсіі, прарока, выгнанца. Узыйшоўшы на гэткі высокі маральны шлях, чалавек праходзіць па лязу, балянсуючы між усеагульнай любоўю і ўсеагульнай нянавісьцю. Такія асобы не губляюцца ў гісторыі, іх учынкі, іх выбар і лёс застаюцца прадметам жывых спрэчак назаўсёды. У адрозьненьне ад немаральных палітыкаў, пра якіх зусім ня хочацца сказаць: «наш».

Гамсахурдзія — наш чалавек.

# ІНФАРМАЦЫЯ

## Віншаваньне

З нагоды 75-гадовага юбілею Віленскай Беларускай Гімназіі настаўнікі й вучні адроджанай беларускай школы ў Вільні віншуюць усіх былых супрацоўнікаў ды навучэнцаў ВБГ, якая выхавала не адно пакаленьне змагароў за Бацькаўшчыну. Жыве Беларусь!

## Ялінка ў Чыкага

Беларускі Каардынацыйны Камітэт Чыкага, Іліной, выдаў летась калядныя карткі, прадстаўляючы беларускую ялінку, ладжаную штогод ад 1978 г. у Музэі Навукі й Індустрыі ў Чыкага. Здымак быў зроблены спадаром Нікадэмам Жызьнеўскім, а мастацкае афармленьне й тэкст апрацавала спадарыня Вера Рамук.

Напачатку ўборы на ялінцы былі скрыначкі розных геамэтрычных фігураў, зрыхтаваных Генрыхам Сенкевічам, часткова Антонам Беленісам, а ўзоры на скрыначках былі прыгатаваныя спадарыняй Людвікай Беленіс, арнамэнты з саломкі часткова нарыхтаваныя Гэняй Беленіс і спадарыняй Эўдакіяй Жызьнеўскай. Цяпер ялінка мае выключна арнамэнты з саломкі ў вясёлкавых калярах, што рыхтуе спадарыня Людвіка Беленіс. Пры ўбіраньні ялінкі дапамагаюць спадарства Вера і Вітаўт Рамукі, спадарыня Ірэна Пануцэвіч, спадарства Васіль і Маргот Багданы, спадары Лявон Беленіс, Нікадэм Жызьнеўскі і Міхась Махнач. Беларуская ялінка папулярная сярод наведнікаў; абслуга Музэя інфармуе пра Беларусь.

Выданьнем гэтай каляднай карткі мы ўшаноўваем працу мастачкі Людвікі Беленіс і ўсіх, хто дапамагае.

Др. Вітаўт Рамук

## Напад на супрацоўніка «НН»

15-га студзеня, у дзень прыезду ў Менск прэзыдэнта ЗША, камуністаў 50 наладзілі антыамэрыканскі пікет зь лёзунгамі, якія зьневажалі госьця.

Сымбалічна было абранае месца — каля бюсту Дзяржынскага, насупраць КГБ. Але Біл Клінтан там не праехаў. Відаць, гэта паўплывала на псыхалягічную раўнавагу пікетоўшчыкаў, паспрыяла іхняй агрэсіўнасьці. Здаралася, што сытуацыя была на мяжы канфлікту зь некаторымі мінакамі. Адным з такіх выпадкоўцаў аказаўся супрацоўнік «НН» Алег Дзярновіч. Зьвярнуўшы ўвагу на граматычныя памылкі некаторых лёзунгаў, ён тым самым распачаў дыскусію. Аргумантамі супрацьлеглага боку сталі кулакі й ногі. Міліцыя, якая ўвесь час трымалася нібы збоку, нарэшце ўмяшалася. Але вінаватым стаў пацярпелы. На А.Дзярновіча напала каля 20 чалавек. Таму, відаць, яму была інкрымінаваная арганізацыя масавых беспарадкаў (5 гадоў пазбаўленьня волі). Толькі потым склалі пратакол па факту хуліганства, і А.Дзярновіч быў пасаджаны ў пастарунак на 3 сутак. Але няёмкасьць моманту адчувалася й міліцэйскім начальствам: ва ўсёй гэтай гісторыі ўскосна фігуравала імя Прэзыдэнта. Амаль усе грошы, якія былі ў кішэні нашага калегі, былі канфіскаваныя ў якасьці штрафу, і А.Дзярновіч быў выпушчаны на волю, але ўжо як хуліган.

Фактам ёсьць тое, што пасярод белага дня, у цэнтры вялікага гораду на Вас можа напасьці група фанатыкаў і Вы станеце вінаватым. «Столькі злобы ў вачох людзей я яшчэ ня бачыў», — скажа потым Алег Дзярновіч.

Рэдакцыя

# Паліталёгія ў рытме сьцёбу

Тодар Рэштковіч

Што ні дзень, то хтосьці з апантаных прыцісьне ў цёмным куточку да сьцяны й запатрабуе за дзьве хвіліны адказаць на пытаньне: «А чаму ня йдзе беларускае адраджэньне?» І на самой справе — чаму? І вось, днямі гартаю ўлюбёны свой часопіс «Искусство кино» (№9 за 1993 г.) і чапляюся за артыкул Віктара Міцізэна «Кароткі курс паратэорыі савецкага кіно». Галоўная пасылка аўтара наступная. У савецкім грамадзтве было тры клясы: бюракратыя, інтэлігенцыя й народ. У сацыякультурным аспэкце іх вобраз характарызаваўся двума паказчыкамі — партыйнасьцю й культурнасьцю. Бюракратыя была партыйная, але бескультурная; інтэлігенцыя — культурная і, таму, беспартыйная; народ жа — ані партыйны, ані культурны. Бюракратыя сьвядома імкнулася зрабіць партыйнымі інтэлігенцыю й народ, інтэлігенцыя падсьвядома жадала зрабіць культурнымі народ і бюракратыю; народ жа ўсякімі спосабамі ўхіляўся ад гвалту як партыйнасьцю, так, яшчэ ў большай ступені, культураю.

Гэты сьцёба-сацыялягічны падыход падаўся мне слушным і прадуктыўным дзеля аналізу й нашага беларускага жыцьця, зразумела, з улікам той акалічнасьці, якую цяпер прыгожа клічуць: «нацыянальная кампанэнта».

Зыходзячы з мэтадалёгіі Міцізэна, сьветлай памяці часы позьняга застою ўяўляюцца наступным чынам. Беларуская бюракратыя была бескультурная й беларусафобская, што з посьпехам кампэнсавала ўзорнай партыйнасьцю. Інтэлігенцыя падзялялася на дзьве часткі: беларускую савецкую інтэлігенцыю і беларускую рускую інтэлігенцыю. Беларуская савецкая інтэлігенцыя была перадусім партыйная й да гідкасьці бескультурная, але ведала беларускую мову. Мой былы навуковы кіраўнік, напрыклад, член-карэспандэнт АН БССР слова «інтэлігент» лічыў лаянкай, а сапраўдную лаянку ўжываў на пасяджэньнях сэктару. Праўда, потым прасіў прабачэньня, але толькі ў жанчын, затое, па-беларуску. Большую частку клясы інтэлігенцыі складалі беларускія рускія інтэлігенты, якія былі беспартыйныя й адносна культурныя, але пра Беларусь мелі нашмат больш цьмянае ўяўленьне, чым пра навуковы камунізм ці палітэканомію сацыялізму.

У адрозьненьне ад Масквы, беларуская сытуацыя вызначалася зайздроснай раўнавагаю. Беларуская савецкая інтэлігенцыя культуры нікому ня несла й несьці не зьбіралася, бо такіх набыткаў ня мела, а таму, каб апраўдаць існаваньне, дэманстравала адданасьць справе партыйнасьці. Беларуская руская інтэлігенцыя таксама культуры нікому ня несла, бо лічыла, што на тое ёсьць інтэлігенцыя маскоўская, якая й культурнай была й адважна дэманстравала ў кішэні дулю бюракратыі. Беларуская руская інтэлігенцыя таксама час ад часу скручвала тую самую дулю, але не ў кішэні, а пад падушкаю й пасьля таго, як гасіла сьвятло на ноч. Беларуская бюракратыя пра тую дулю добра ведала, але рабіла выгляд, што нічога ня здарылася, бо галоўнае — каб ціха было. Народ жа ў гэтай сытуацыі атрымаў шчасьлівую магчымасьць ухіліцца і ад беларускай культуры, бо той не было, і ад рускай, бо тая была далёкая, і зрабіўся ані беларускім, ані рускім. Цяжэй у гэтых абставінах было ўхіліцца ад партыйнасьці, і беларускі народ стаў самы партыйны ў сьвеце, толькі крыху саступаючы паўночным карэйцам і кубінцам. А мо й ня стаў, а проста рабіў, адпаведна сваёй мэнтальнасьці, выгляд. Бо, насуперак партыйнасьці, у глыбіні душы прадчуваў непазьбежнасьць свайго балцкага паходжаньня, дзеля чаго ўпарта хаваў ад палітінфарматараў і агітатараў найлепшага гатунку ў Эўропе фальклёр. І, насуперак усё той жа партыйнасьці, гадаваў амаль што капіталістычных кабанчыкаў і расьціў на мізэрных сотках абсалютна антысавецкую бульбу. Бюракратыя ж глядзела на гэта скрозь пальцы, бо аб беларускім «снабжении» па краіне гулялі легенды, і гасьцям са спрадвечна галодных Паволжа ці Ўралу гарантаванае беларускае сала з бульбай здавалася жывым увасабленьнем ленінскіх ідэй. Усе былі задаволеныя.

Гэты варты вэтэранскага замілаваньня малюнак узорнага застою разбурыла раптам аднекуль зьляцелая купка навізна мутантаў, якія ня толькі былі культурныя, але й размаўлялі па-беларуску й вельмі не любілі бюракратыю. Яны захацелі зрабіць беларускі народ беларускім і культурным. Спачатку гэта ня надта непакоіла бюракратыю, бо, як гэта заўсёды бывае, кола інтэлігенцыі было вузкае, і народ, які прызвычаіўся да партыйнай трасянкі, яе тарашкевіцы не разумеў. Таму ад гэтага кола было проста адбіцца такой дробнай колькасьцю сьлезацечных газаў і гумовых палак, каб потым пераканаўча даказаць, што аніякіх газаў і палак увогуле не было. Так бы ўсё й цягнулася бясконца, але выбухнуў пуч, і тут усё й пачалося.

Ад нечаканасьці зь бюракратыяй адбылася непрыемнасьць, вартая немаўляці, і, каб неяк прыхаваць неўласьцівы для клясы пах, яна пагадзілася й на ненавісны бел-чырвона-белы, і на зусім ужо брыдкую Пагоню. Беларуская савецкая інтэлігенцыя зразумела, што спэцразьмеркавальнікаў і гарантаваных ганарараў за партыйнасьць ужо не атрымаеш, і вырашыла адсутнасьць культуры кампэнсаваць узорнай беларускасьцю. Ад гэтай беларускасьці ў беларускай рускай інтэлігенцыі валасы дыбарам сталі, і яна пачала лямантаваць, што нават разавае ўжываньне беларускай мовы прыводзіць да рэзкага падвышэньня ціску й да заўчаснага выпадзеньня зубоў. Пад віскі аб тым, што грэбаваньне беларускай мовай ёсьць найпершае права чалавека й грамадзяніна, беларуская бюракратыя раптам уразумела, што калі беларускі народ стане беларускім і культурным, дык яму такая бюракратыя будзе непатрэбная. А гэтая акалічнасьць можа йстотна ўскладніць зьдзяйсьненьне запаветнай справы розуму, гонару й сумленьня — пабудовы сьветлай камуністычнай (капіталістычнай) будучыні (патрэбнае падкрэсьліць) у асобна ўзятым футравым мікрараёне, кватэры, лецішчы, катэджы, офісе й г.д. А гэта непрыемна, тым больш, калі сакрэт тэхналёгіі будаўніцтва будзе раскрыты, то замест рэзыдэнцыі ў радзівілаўскім палацы можна атрымаць кабінэцік з пэрспэктывай на Нямігу з вышыні іншага замку — Пішчалаўскага. Таму й беларуская бюракратыя зноў гатовая адмовіцца ад усяго беларускага...

А што ж народ? Народ глядзіць на ўсю гэтую мітусьню збоку. Сохне па Марыянах і проста Марыях, жлукціць гарэлку й пасылае ўсіх разам да е.м. Вось чаму й ня йдзе беларускае адраджэньне.

# Аб крывічох

С.Ш.

КУРКУЛІ. Жыхароў Полацку нельга сур'ёзна называць гараджанамі. Хто яны — местачкоўцы, вяскоўцы?

Хай не крыўдуюць мае супляменьнікі, але дзеля азначэньня іх сацыяльнага статусу на язык мне просіцца адзінае слова — куркулі.

Палачанін ніколі ня скажа на сябе, што ён куркуль. Але пра суседа абавязкова: «Вунь які палац адбухаў. У-у, куркуль!» А сусед тое ж самае будзе сьцьвярджаць пра яго: «Вы паглядзіце на гэтага куркуля, — ва ўсіх сыноў і зяцёў — па машыне».

Крый Божа, сказаць ім гэта ў вочы, але калі дзейка дойдзе да іх ускосна, то будзе ўспрынята імі як камплімэнт. Бо вядома, што кожны палачанін перад сном усьцешна думае пра сябе: «Ну і куркуль я!»

МАСКАЛІ. Маю прыхільнасьць да беларушчыны адзін чалавек растлумачыў так: «Ты — палачанін, табе й карты ў рукі». А іншы наадварот шчыра (а мо й няшчыра) зьдзівіўся: «Адкуль у Полацку можа быць беларушчына?»

У сапраўднасьці ўсё больш складана. Калі на полацкім рынку Вы схопіце за крысо якуюсь бабульку й спытаеце яе пра нацыянальнасьць, — яна Вас не зразумее.

Калі ж, патлумачыўшы на прыкладзе грузінаў і жыдоў, Вы падштурхнеце яе на шлях нацыянальнага самавызначэньня, то ланцуг яе развагаў будзе наступны: «Я — праваслаўная... Рускія мы, сынок». Але не сьпяшайцеся бедаваць (ці радавацца). Сапраўдны вялікарос (ці, па-тутэйшаму, маскаль) спрадвеку адштурхоўваўся гэтым «рускім» асяродзьдзем, што трэска ад вады. Зь ім трымаюцца дыпляматычна, — з дуляю ў кішэні.

ЗАХОДНІКІ. Старыя людзі пабойваюцца заходнікаў, бо мяркуюць, што жыхары Заходняй Беларусі спрэс выжглы ды спрытнюгі... Да таго ж каталікі.

... Але хто адкажа, чаму зацяты ў праваслаўі Полацак ператварыўся калісьці ў моцны ўніяцкі цэнтар?.. Справа ў тым, што заўжды гэтых ваўкаватых схізматыкаў, як спакусьлівы грэх, вабілі прайдзісьветкі-каталічкі. І несаступны народ мусіў ісьці на кампраміс.

Напрыканцы гэтага невялічкага этнаграфічнага дасьледаваньня я паспрабую зрабіць высновы.

1. Палачане любяць парадак, але не ўпадабаюць чужога гвалту. Палачане — дзяржаўнікі.

2. Гэтыя рысы пасьпелі атрафавацца да ўзроўню местачковай закасьцянелай куркулятасьці...

Каб збудзіць іх імпэтную моц, мужную сутнасьць крывіцкага духу, — ня трэба хітрых адмысловых высілкаў. Сувораму крывіцкаму сэрцу патрабуецца адзінае — прыязная ўвага па-каталіцку чульлівага, жаноцкага Захаду.

# 10 гадоў наперад

Зьміцер Бартосік

*«Если вы не бывали в Свердловске,*
*то и нечего вам там бывать».*

Гэты перароблены радок адной патрыятычнай песьні ўсё часьцей прыгадваецца мне, калі наведваю свой горад. «Свердловск» тут гучыць як увасабленьне горада-імярэка, заселенага імярэкамі-людзьмі.

1.

Што такое «Белоруссия» і ў якім баку яна знаходзіцца, я й «слыхом не слыхивал», пакуль не прыйшлося разам з бацькамі перабірацца ў краі нязнаныя. Дзіцячыя ўражаньні ад кантрасту паміж тым, з чым разьвітаўся, і што сустрэў, на доўгія гады вызначылі маё стаўленьне да гэтага краю.

Першым ударам па непадрыхтаванай псыхіцы дзесяцігадовага хлапчука быў прыём у новай клясе. Да мяне адразу падыйшло некалькі хлапцоў, і пасьля першых словаў знаёмства я стаў сваім. Для дзікуна з канавінскай слабады, дзе любімаю нашай забаваю былі спаборніцтвы ў пляжаньні жабаў (хто хутчэй заб'е), дзе сустрэча навічка ператваралася ў своеасаблівы фэст кпінаў, такі «беларускі» дарослы прыём мяне прыгаломшыў. І першая краязнаўчая выснова напрошвалася сама сабой: «В Белоруссии плохие люди не живут».

Далейшае азнаямленьне было яшчэ больш цікавае. Аказалася, тут паблізу нідзе не было балота, а мясцовыя жыхары бавілі час у нейкім парку. Дзякуй Богу й бацькам, за свае 10 гадоў я зьмяніў не адзін дзясятак гарадоў ад Алтаю да Волгі й паркаў наглядзеўся ўдосталь. Ніводзін зь іх ня мог паспрачацца ў шырыні забаўляльнага сэрвісу з канавінскім балотам.

Але парк у Гомлі быў ня проста ЦПКіА зь перакуленымі сьметніцамі, іржавымі арэлямі й алкаголікамі пад елачкамі. Гэта была іншая эпоха, і гэта мы разумелі бяз нудных экскурсаводаў. Як разумелі й тое, што шляхецкі палац будаваўся зусім не для «піянераў», як можна было прачытаць на фасадзе. Жабы тут не вяліся. Тут жылі вавёркі. Не ў заапарку! Іх нават можна было карміць з рук, што канчаткова прымірыла мяне з братамі малодшымі.

І, нарэшце, што ўразіла больш за ўсё. Мае новыя сябры мелі «свой язык». Тое, што робіць людзей іншаземцамі, што дае такую перавагу, як неразуменьне цябе іншымі, што край робіць амаль што «заграніцай». І гэтыя дзівакі такі шанец ня толькі не выкарыстоўвалі, але як бы не заўважалі яго. Гэтага зразумець мой дзіцячы розум быў ня ў стане...

2.

Летась Гомель адзначаў свой юрыдычны 850-гадовы юбілей. Сярод іншых мерапрыемстваў гарадзкія ўлады вырашылі перайменаваць некалькі цэнтральных вуліц. Найбольшыя спрэчкі разгарэліся вакол Савецкай — былой Румянцаўскай. Левым патрэбная была старая назва. Правыя выступалі за гістарычную. Нацыяналісты змагаліся за ўвекавечаньне памяці якой-небудзь нацыянальнай Асобы. Мяркуючы па старых шыльдах, пошукі годных асобаў працягваюцца. Мусіць, задача гісторыі нялёгкая.

За расейскім панаваньнем гэтае мястэчка Рэчыцкага павету выйшла ў цэнтры рэгіёну.

Пры Румянцаве Гомель займеў свой парк, на сьцяжынах якога я хутчэй уяўляю А.С.Пушкіна (легенда ці не — кажуць ён быў тут праездам), чымся Ф.Багушэвіча на тле Петрапаўлаўскага сабору... Праўда, ня стаў, дый ня мог стаць паняволены горад местам расейскай (на той час ужо акупацыйнай) культуры. Стаў правінцыяй зь некалькімі банкамі ў стылі «мадэрн» ды падарункам цывілізацыі — вакзалам. Да нас ён дакаціўся «другім па велічыні горадам рэспублікі».

Сёньня у Гомлі робіць свае кволыя крокі — беларушчына. У тралейбусе можна пачуць такое: «Асьцярожна! Дзьверы зачыняюцца. Наступны прыпынак «Цырк». Заходите быстрее!» Але «Цырк» — прыпынак не канцавы.

Часам у горадзе здараюцца перастрэлкі. Адна была ў рэстарацыі, другая на цэнтральнай вуліцы. Ёсьць забітыя й параненыя. Кажуць, такі час. Час няпэўнасьці, кепскіх грошай, страху й іншых заваёваў нашае незалежнасьці. Чарнігаўцы гандлююць чым заўгодна на гомельскіх рынках. Але нават і ў такім часе ёсьць добры знак. Гэта сорам. За сябе й за сваё. І «у нас в СНГ» гучыць ужо гэтаксама загадкава як «у нас у Эўропе».

Але ня толькі трагедыі напаўняюць гомельскае жыцьцё. Здараюцца й камэдыі, і нават на дзьвюх сцэнах.

Новы тэатар? У Гомлі? Калі асноўны глядач амаль увесь паехаў глядзець на М.Казакова? Неверагодна! Але новы «Независимый театр» ня толькі апраўдвае сваю назву (спонсар у Маскве), ён ажыўляе жыцьцё, складаючы канкурэнцыю былому «русскому областному», які паступова ператвараецца ў беларускі. Дакладней, яго ператвараюць. Але мяне прыемна зьдзівіла іншае.

Ідзе навагодні паказ для дзяцей. Акторы вызубрылі беларускі тэкст, і, спрабуючы імправізаваць, альбо пераходзяць на расейскую, альбо ўвогуле губляюць мову. Але зь якім азартам падхоплівае гэтыя лінгвістычныя шайбы малышня!

Не. «Свой язык» для іх яшчэ ня «свой голас», але ўжо адзнака «іх часу». Варта спадзявацца, што гэты час ня будзе афарбаваны сорамам бацькоў.







# Польшча: кан'юнктура на Ўсходзе

*Адказы рэдактара парыскай «Kultury» Ежы Гедройця на пытаньні варшаўскай «Polityki» (11 сьнежня 1993 г.)*

*Ці могуць вынікі польскіх выбараў дынамізаваць посткамуністычныя сілы ў іншых краінах былога ўсходняга блёку?*

Ня думаю. Падобныя працэсы адбыліся ў Літве, дзе да ўлады прыйшлі былыя камуністы, што аднак не паўплывала ані на літоўскую палітыку, ані на агульную палітычную сытуацыю ў Сярэдняй і Ўсходняй Эўропе.

*У верасьнёвым інтэрвію для «Wprost» вы сказалі: «Няма ніякай канцэпцыі сучаснай дзяржавы, ніякай палітыкі, у т.л. замежнай». Атрымліваецца, што дамовы аб супрацоўніцтве з суседнімі краінамі, Вышаградзкая Група, спробы інтэграцыі з Эўрапейскім Саюзам нічога ня значаць. Ці вы не зьмянілі сваё меркаваньне?*

Гэта чыста папяровыя пагадненьні, якія не рэалізаваныя. Мы маем, напрыклад, дамову з Украінай, і што з таго? Супрацоўніцтва ані ў якой галіне, ані ў эканамічнай, ані ў культурнай, я ня бачу.

*А Эўрарэгіён «Карпаты»? Менавіта ў рэгіянальным супрацоўніцтве можна ўбачыць новыя магчымасьці разьвіцьця партнэрскіх адносінаў.*

Чыста папяровая рэч. Гэта палітыка, у лепшым разе, рэгіянальная, але гэта яшчэ не палітыка дзяржавы адносна дзяржавы. Мы ня маем выкрышталізаванай усходняй палітыкі, ясных адносінаў да Ўкраіны, Беларусі, ня кажучы пра Літву. А перад усім, што для нас найбольш небясьпечнае, няма выразнай палітыкі адносна Расеі. Я з сорамам чытаў справаздачу пра візыт Ельцына ў Варшаву. Гэты энтузіязм, што ён ня мае нічога супраць нашага ўваходу ў НАТО! Чым гэта адрозьніваецца ад сталінскіх часоў, калі «старэйшы брат» згаджаўся або не? Гэта папросту непрыстойна. У Расеі нарастаюць імпэрскія тэндэнцыі, і Захад ставіцца да іх цярпліва. Выступ Ельцына, які хацеў бы граць ролю ахоўніка міру ў Сярэдняй і Ўсходняй Эўропе — гэта ня надта нават прыкрытая пагроза інтэрвэнцыі Расеі за яе межы. Гэта вымагае нейкай рашучай дзейнасьці з нашага боку.

*Ёсьць спробы ўвайсьці ў НАТО і Заходнеэўрапейскі Саюз.*

Пытаньне НАТО — вельмі важнае. Эўрапейская інтэграцыя — таксама вельмі добра, але ўсё гэта страшэнна марудны працэс. Уласна мы той Эўропе непатрэбныя, мы для яе хутчэй цяжар, які можа стаць крыніцай яе непаразуменьняў з Расеяй. Таму ня будзем абяцаць сабе зашмат. У выпадку польска-расейскага антаганізму, Захад з Амэрыкай будуць на расейскім баку, не на нашым. Мяркую, што мы павінны таксама будаваць уласныя структуры, у рамках, напрыклад, Вышаградзкай Групы, разьвіваць наша ваеннае супрацоўніцтва з балтыйскімі краінамі ці нават з Украінай. Цяпер мы выступаем на Захадзе ў ролі кліентаў, якія нечага просяць, чагосьці дамагаюцца, сядзім у разнастайных пачакальнях ды калідорах і ўвесь час забываемся пра адну рэч, што наша сытуацыя ў Эўропе і ў сьвеце будзе залежаць ад нашай пазыцыі на Ўсходзе. Чым больш моцная яна будзе, тым больш каштоўным партнэрам мы будзем для Захаду. Але гэта патрабуе вельмі дынамічнай усходняй палітыкі.

*Што найперш павінна зьмяніцца ў польскай усходняй палітыцы. Якія прыярытэты належала б усталяваць?*

Гэта вельмі далікатная гульня. Цяжка, напрыклад, падтрымліваць Украіну, не псуючы пры гэтым адносіны з Масквой. Нармалізуючы нашы кантакты зь Беларусяй, Украінай ці Літвой, трэба адначасова разьвіваць супрацоўніцтва з Расеяй, хоць бы для пачатку ў галіне культуры. Ёсьць і іншая справа, на якую я хацеў бы зьвярнуць увагу. Мы прызвычаіліся з украінцамі ці літоўцамі размаўляць па-польску, але гэта тычыцца старэйшага пакаленьня. Сёньня тамтэйшая моладзь па-польску проста не разумее, падобна як у нас занікае веданьне расейскае мовы, ня кажучы пра іншыя мовы нашых усходніх суседзяў. Між тым, мы маглі б разьвіваць такое навучаньне і на гэта ёсьць грошы... Ёсьць яшчэ адно вельмі важнае пытаньне, пра якое няшмат гаворыцца — супярэчнасьці паміж інтарэсамі касьцёлу, я маю на ўвазе Ватыкан, і нашай усходняй палітыкай, асабліва на прасторы Беларусі й Расеі. Цяпер Ватыкан праводзіць там місіянэрскую палітыку, што зразумела з пункту гледжаньня Ватыкану, але навошта гэта робіцца польскімі рукамі? Такая палітыка нечувана антаганізуе праваслаўную царкву, а мы мусім мець з праваслаўем добрыя адносіны й супрацоўнічаць. Я не настроены супраць касьцёлу, але трэба ўсьведамляць, што інтарэсы Ватыкану не заўсёды зьбежныя з нашымі.

# Алесь Аркуш

*Зь нізкі «Разьвітаньне з Танталам»*



Бывай, ні шкадаваньня, ні трымценьня,
Учынкі засталіся за плячыма,
Цяпер маё жыцьцё крынічкаю струменіць,
Кудысь бяжыць, сьпяшаецца упарта,
Ніхто ня ведае куды.
Ты назіраеш з хіжасьцю вар'ята,
Ня верыш іншаму зыходу,
(Падман Аіда?) бо вакол фантомы,
І толькі голас мой сапраўдны:
Бывай, Тантал!

ТАБЕ

Я ахвяра твайго гіпнатычнага сну,
Твае жахі цікуюць за мной.
Дыягенам пабачыў прыблуду-вайну,
Крылы мёртва вісяць за сьпіной.

Я раблю толькі тое, што мушу рабіць,
Раўнавага — як прывід вясны.
Гіпнатычна казаць, гіпнатычна любіць,
Алчуваць чарназём баразны.

Два жаданьні — адно мне прымусам дано,
Не пазбыцца яго аніяк.
У кілішках статычна чакае віно —
Ці адбудзецца змоўніцкі знак.

Я ахвяра — і споведзь мая, як пчала,
Абавязак і праца — штодзень.
Гіпнатычная хваля мяне узьняла,
Як бярно, як мэтал, як камень.

РАЗЬВІТАНЬНЕ З ТАНТАЛАМ

Дзе вуліцы, дзе сьнег даюць па картках,
Ніводнай страказы, ні мятліка, ні пчолкі,
Адзіны слуп, зь яго
у бездань скокне месяц, —
Ўладаньне змрочнага Аіду.
Прыступак не відно — ідзеш гарызантальна,
Ў паветры жахі сноў дзіцячых
Лятуць усьлед —
паветраныя шарыкі на нітцы.
Хачу сказаць: — Бывай, Тантал!

Аід не гаспадар — ён Пан і Бог,
Ён сустракае кожнага абдымкам,
Ягоная гасьціннасьць — хітрыкі пракуды,
Дзіцё — якому безьліч год.
І ты, ахвяра ўласнага нахабства,
Вар'ятам аглядаеш сьвет фантомаў,
Зьняверлівы ва ўсім, ва ўсіх, —
Бывай, Тантал!

Зярнятка кволае — адзіны апанэнт Аіда,
Для навуковых спрэчак вільгаці хапае.
Дарэмна шкадаваць цябе, Тантал,
Ты сам сабе узнагарода і вырок,
Твой лёс, як лябірынты Мінатаўра,
Ты заблукаў, ты схлусіў сам сабе.
Вада зьнікае — рэха вадаспадаў цьвеліць:
Бывай, Тантал!

* * *

На душы супакой, восень зьвіла кубло,
Дождж патрэбны для стомленых воч.
І адразу ўсплывае, як месяц у ноч,
Варажнеча дурманлівых слоў.

Кроплі-гукі дажджу працінаюць мяне,
Як паверхню лагоднай ракі.
На ўзьбярэжжы алешыну вецер ня гне —
Разыйшоўся ў чатыры бакі.

На душы супакой, адчуваю сябе,
Нібы ў чоўне на днішчы ляжу.
Твой, Ясон, карабель,
карабель... карабель...
Мне прымроіўся ў рысах дажджу.



*Зь нізкі «Замкнёная прастора»*

МОЙ ПАКОЙ

У пакоі, як у складзе,
Ёсьць адметнае бязладзьдзе.
Паспрабуй на гэткай плошчы
Ўладкаваць развагаў мошчы.
У вадным куце — пра грошы,
Там скразьняк заўжды харошы.
У другім — пра лёс свабоды,
Там абрынутыя стоды.
Трэці кут займае посуд,
Там развагі пра п'янтосаў.
А ў чацьвертым — цыгарэты,
Не палю, бо шкодна гэта.

У ГАСЬЦЁХ

На адным узроўні — слава,
На другім узроўні — кава.
Мы спрачаемся з Мудровым,
Дзе о'кэй, а дзе халява.
Вечар слухае размовы,
Пустата сынонім сьвету,
Робяць кубачкі высновы:
Лепш пра цукар, а ня «гэта».
На лапаткі ўсіх расклалі,
Абмалолі косткі файна,
Прусакі аж паўцякалі,
Гул стаіць, як ад камбайна.
Адпачнулі тры хвіліны,
Абадзінскага згадалі,
Памаўчалі, пасьпявалі,
Пасядзелі, пастаялі,
Гаспадыні далі «бусю»,
Гагатнулі, быццам гусі,
І праз кволую хвіліну
Мы пакінулі хаціну.

## СЬМЕРЦЬ КАРАЛЯ (I)

**Ірына Багдановіч. Вялікдзень: Вершы. — Менск: Бел. Каталіцкая Грамада, 1993.**

Ёсьць спакуса перачытаць вершы гэтае кнігі як куртуазную паэзію ў сытуацыі сьмерці караля. Кароль («мадэрн») не вярнуўся з мэтафізычных прастораў, — ці то годна загінуў, ці то ўзяў карту жыхарства й назаўсёды застаўся там, за межамі. І ў доўгія восеньскія вечары асабліва сумна, асабліва пяшчотна гучаць флейты, — не дзеля кагосьці, а так, проста...

*Аркестр іграе і расьце туга*
*палон мой палянэз...*

Кніга Ірыны Багдановіч ня мае прыкметаў «літаратуры»: мы ня знойдзем тут прыхаваных цытатаў і спасылак, наваціыйных «прарываў» і залежнасьці ад традыцыі. Вядома, можна крыўдзіцца на наіўнасьць, можна захапляцца натуральнасьцю паэтычнага подыху, — а можна проста чытаць вершы. Так, як чытаюць дзёньнік чалавечае душы. Жаночае душы.

*Усё жыцьцё — то прадчуваньне Вас*
*Між звыклых масак, то ваўкі, то лісы,*
*То рабскі пот, то масавы экстаз,*
*То сьцёртыя, то зблытаныя рысы.*
*На ўсім таўро распаду і маны,*
*Яно на ўсіх ад цэзара да сьмерда.*
*Адкуль жа Вы, аскепак даўніны?*
*Вы — вершнік з забароненага герба.*
*Я Вас пазнала, хоць няма мяча*
*і на двары амаль паўзмрок сутоньня.*
*Папраўлю плашч, які ўпадзе з пляча,*
*І рушым не нараніцы, а сёньня!*
*Бо да сьвітаньня трэба нам якраз*
*Пасьпець узьвесьці крэпасьці ды вежы,*
*Каб бараніць усё, што нам належыць.*
*Усё жыцьцё — то прадчуваньне Вас.*

...

«Магчыма, беларускаму народу патрэбныя мужчыны, а не газэты.» (паэты?)

Стывэн Д.

## СЫМБОЛІКА ГРЭХУ

Вобраз традыцыйнай касьцельнай беларускі ўяўляецца мне звышкансэрватыўным, скутым і непахісным. Ён маральны без усялякай меры. Ён фатальна прыбіты пячаткай якогась асабістага трагізму, быццам у сям'і ўвесь час — нехта памёр. Але я ніколі ня верыў, што ўласны розум маладой і здаровай кабеце можа зусім замяніць канон, што ўся жывасьць памыслаў можа зводзіцца адно да папярэджаньня грэху. А таму — думаў я, — калі скрайнасьці й сапраўды сыходзяцца, таемныя думкі касьцельнай беларускі мусяць быць надзвычай грахоўныя.

У Ірыны Багдановіч лірычны вобраз адпавядае зададзенаму канону. Ніякага экзатызму, ніякай экзальтаванасьці, ніякіх, хоць бы й філялягічных, вольнасьцяў. Верх памкненьняў — у плоскасьці патрыятызму, героікі, рэлігійны матыў паўсюль вывераны традыцыяй. Словам, пра гэта можна было б і не казаць, каб не адзін верш:

*Прачнуцца ў чыстым сьне!*
*На пляжы залатым,*
*Дзе ўсё навокал чысьціня і веліч,*
*Дзе на мяне чакаў юнацтва поўны ты,*
*Мой першы, дарагі, сапраўдны каралевіч.*

Залаты пляж і каралевіч — яўна ня з той опэры. Другога аўтарка відавочна вынесла з свайго савецкага маленства, а першы (тут не ратуе й шматкроць паўтораная агаворка «чысты, чысьціня» і веліч) — хутчэй знак распусты, дзе словы пляж (галізна, пажада, тамленьне плоці; у беларускім гукапісе выразна асацыюецца са словамі «пляжыць» і «плюгата») і золата (прагнасьць, раскоша) на фоне астатніх богабаязных вершаў утвараюць ядзерны сымбаль грэху.

Ці то Ірына Багдановіч чаго не дагледзела, ці — мой недавер знаходзіць сабе пацьверджаньне — пад чорнымі хусткамі касьцельных беларусак і сапраўды блукаюць самыя вольныя ўяўленьні?

Крыт.

## ДЫСКУРС САМОТЫ

**Анатоль Кірвель. Човен Харона. Менск: Бібліятэка часопіса «Маладосьць», 1993.**

«Ну колькі можна распавядаць гісторыі!» — зьінтанаваў Віктарас. Ішоў 1984, мы сядзелі на прыватнай кватэрцы й пілі армянскі каньяк, — сьвяткавалі выданьне па-літоўску Картасараўскай «Гульні ў клясыкі». У параўнаньні з мэтафізычнымі прарывамі Алівэйры й дзэн-авангарднымі тэорыямі Марэлі рэшта літаратуры выглядала як пост-гамэраўскія графа-маніі.

Анатоль Кірвель лічыць, што мы ня мелі рацыі тады, у 1984.

«Човен Харона» прапануе нам яшчэ дваццаць тры гісторыі.

Прачытаўшы іх некалькі разоў, я са зьдзіўленьнем усьведаміў, што перада мной лепшы празаічны дэбют году.

Гэтае адчуваньне было больш інтуітыўнае, чым канцэптуальнае, і я пачаў шукаць аргумэнты. Я іх не знайшоў. Тады я пачаў шукаць разгадку.

Па-сутнасьці, перад намі гісторыя самоты, прайграная на дваццаці трох клявішах жыцьця. Кожная клявіша паасобку дае толькі адзін гук, — часам абсурдны, часам лірычны, часам пацешны. Але, узятыя разам, яны складаюцца ў мэлёдыю, ці, як сказаў бы Ралян Барт, — у дыскурс. Дыскурс самоты.

Самота ў маладосьці — сьвята адасобленасьці — у сьвеце й ад сьвету. Чалавек са зьдзіўленьнем заўважае ў сабе бясконцасьць мікракосму, — у параўнаньні зь якой сьвет здаецца памылкай перапісчыка.

Самота ў сталасьці — гэта падрабязнасьці сьвету, аб якіх тужыць Харон. Вядома, туга гэтая хаваецца, прыхоўваецца, маскуецца, — здаецца, самы сьвет распавядае нам свае гісторыі. Але гэта нас не падмане.

«Аўтар»: тонкае псыхалягічнае пісьмо, традыцыйная беларуская інтанацыя, «мэтафізычнае шкадаваньне» сваіх герояў.

...

Проза Анатоля Кірвеля вартая ўвагі.

Фр.Эн.

## ІВЕЙСКІ АЛТАР

**Władysław Łoziński. Sztuka Lwowska w XVI i XVII wieku. Architektura i rzeźba. — Lwów, 1901. Перавыданьне. — Warszawa.**

Гэта факсымільнае выданьне з 103 гравюрамі мае багаты фактаλягічны зьмест з грунтоўным апаратам і дае інфармацыю таксама пра беларускае мастацтва. Да прыкладу, — пра Андрэя Бэмэра, львоўскага скульптара, які замест Марціна Фіёля з Кросна выканаў у 1621 г. на замову дэрпцкага ваяводы Мікалая Кішкі алтар з каменю для Івейскага касьцёлу бэрнардынаў (фундаванага Кішкамі). Бэмэр сам езьдзіў у Ашмянскі павет, у Іўе, дзе апроч усталяваньня алтару, магчыма, выконваў і іншыя работы. Пасьля вяртаньня гэты майстар стаў творцам вежы львоўскае ратушы...

Падаюцца зьвесткі й пра *Sacrae Regiae Maiestatis Murator et Architectus in Arce Grodnensi* Язэпа Райстына, гарадзенскага скульптара й архітэктара, які наяжджаў у Львоў па майстроў-скульптараў. Як сьведчыць аўтар, гэтыя майстры былі вельмі высокага ўзроўню й

## ЖЫЦЬЦЁ ПРЭЗЫДЭНТА

**Раіса Жук-Грышкевіч. Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча. Таронта: Выдавецкі Фонд Успамінаў зь Беларускага Жыцьця, 1993. — 797 с.**

Гэты зборнік матэрыялаў аднолькава прыдатны для разьвіцьця як у біяграфічны раман, так і ў пэрсанальную энцыкляпэдыю. Але ёсьць свае вартасьці і ў такім, прамежкавым жанры. Гэты сыстэмны даведнік задаволіць і патрэбы густу. Так паміж чытаньнем кнігі й знаёмствам з вопісам бібліятэкі ёсьць свая асалода разглядаць бібліятэчныя паліцы, браць у рукі архіўныя дакумэнты. Тут — усё XX стагодзьдзе, адбітае ў жыцьці аднаго чалавека — Прэзыдэнта БНР. З бліжэйшых жанравых аналягаў мне згадалася віленская кніжка да 25-годзьдзя дзейнасьці кс. Адама Станкевіча. Розьніца ў тым, што тут — усё жыцьцё чалавека: яго дзёньнікі, лісты, дакумэнты, артыкулы і — пра яго. Вельмі дэтальна закранутыя буйныя тэмы беларускай гісторыі: Віленская Беларуская Гімназія, беларускае студэнцтва ў Празе, бітва пад Монтэ-Касіна, стварэньне беларускай сэкцыі радыё «Вызваленьне», эмігранцкія арганізацыі ў Англіі й Канадзе, Рада БНР.

Асаблівую вартасьць уяўляе палітычная творчасьць Прэзыдэнта: артыкул «Думкі і спасьцярогі» 1947-га году, дзе выкладаюцца пэрспэктывы беларускай геапалітыкі; «Праект рэарганізацыі Рады БНР» 1968-га году і Праект стварэньня Лігі БНР 1969-га году; «Праўныя й ідэалягічныя асновы Рады БНР» 1971-га году. Гэтыя матэрыялы дазваляюць разглядаць Раду БНР як магчымы рэальны фактар сучаснай палітычнай сытуацыі на Беларусі.

Аглядальнік

## РЭКВІЕМ ПА БЕЛРЭСТАЎРАЦЫІ

**Трусаў А., Собаль В., Здановіч Н. Стары замак у Гродне XI—XVIII стст.: Гісторыка-археалягічны нарыс. — Менск: Навука і тэхніка, 1993. — 152 с.: іл.**

**Краўцэвіч А., Якіўук Г. Стары Мір. — Менск: Навука і тэхніка, 1993. — 85 с.: іл.**

**Краўцэвіч Алесь. Гродзенскі замак: Нарыс. — Менск: Юнацтва, 1993. — 58 с.: каляровыя іл.**

Адсутнасьць грошай на маштабныя дасьледаваньні спрыяла таму, што архэолягі ўзяліся пісаць кніжкі. Скарыстаныя яшчэ ня ўсе назапашаныя матэрыялы, але тым ня менш падводзіцца рыса йснаваньню «Белрэстаўрацыі». 80-я гады былі дзесяцігодзьдзем Белрэстаўрацыі на Беларусі. Гэта зусім няшмат уласна рэстаўрацыі, але актыўныя дасьледаваньні, самыя фантастычныя праекты, спадзяваньні, прыцягненьне ўвагі — у навуцы, архітэктуры, увогуле ў творчасьці ды культуры. Была спроба стварыць альтэрнатыўную прастору. Калі для беларускай культуры спэцыфічна важная архітэктурная спадчына, як падстава адрознасьці й чыста статыстычны паказчык багацьця ды стратаў, дык для многіх беларускіх гісторыкаў археалёгія, і ў дадзеным выпадку архітэктурная археалёгія, былі сфэраю ляяльнага прыкладаньня намаганьняў за часамі таталітарызму. Быць тады сумленным дасьледнікам, да прыкладу, у галіне палітычнай гісторыі было немагчыма. Затое археолягі адкрывалі «масавую, сапраўды народную матэрыяльную культуру» сярэднявечнай Беларусі. Адныя з асноўных мэтадаў археалёгіі ў клясыфікацыі й храналёгіі — параўнаўчы й фармальна-тыпалягічны, дзейнічалі й як агульнакультуралягічныя мэтады.

Кніжкі, якія далі падставу развагам, лучыць адна фармальная прыкмета: год выхаду — 1993. Але яднае іх тое, што яны нарадзіліся ў выніку дзейнасьці «Белрэстаўрацыі» і ў яе атмасфэры. Яны прадстаўляюць даволі разьвітую рознажанравасьць: ад спэцыялізаваных справаздачаў па выніках дасьледаваньяў да папулярных нарысаў.

Праблема ў тым, ці застанецца беларуская рэстаўрацыя толькі ў кніжках...

А.Д.

## МЕЖЫ

**Кушнярэвіч А. Культавае дойлідзтва Беларусі XIII — XVI стст. Менск: Навука і тэхніка, 1993. 150 с.**

Кніга ўяўляе сабою клясычны ўзор тыпова беларускага жанру — архітэктурнай археалёгіі. Гісторыя архітэктуры падаецца праз гісторыю будаўнічых матэрыялаў і тэхналёгій, пры дапамозе вынікаў археалягічных дасьледаваньняў карэктуюцца зьвесткі ранейшых крыніц (альбо наадварот). Такая мэтодыка вымагае ад аўтара асабістага візуальнага вывучэньня аб'екту, што ўрэшце прывязвае яго да тых геаграфічных і храналягічных межаў, у якіх ён пачувае сябе больш упэўнена. Праблема ў тым, наколькі абгрунтаваныя гэтыя межы мэтадалягічна.

Прадметам увагі А.Кушнярэвіча сталі толькі мураваныя бажніцы. Гэты натуральны для археоляга выбар не дае, аднак, поўнага ўяўленьня пра тэндэнцыі формаўтварэньня як вонкавай кампазыцыі аб'ёму, так і плянаў культавых будынкаў. Таму аўтар проста вымушаны раз-пораз згадваць і пра драўляныя бажніцы. Але ігнараваньне ўзаемасувязяў драўлянага й мураванага дойлідзтва не дазваляе яму прасачыць фармаваньне спэцыфічных для Беларусі стылёвых прыкметаў. Само паняцьце «стыль» адыйшло ў кнізе на другі плян і заменена простай лінейнай храналёгіяй (XIII—XVI стст.). Ад пачатку аўтар сьцьвярджае, што мураваных храмаў XIII ст. на Беларусі не было выяўлена. Верхняя мяжа храналёгіі (XVI ст.), фактычна адразае ад памянёных у кнізе помнікаў вялікую групу аб'ектаў першай чвэрці XVII ст., тыпалягічна й ідэйна-эстэтычна ўшчыльную зьвязаных зь імі (Мікалаеўскі касцёл у Міры, касьцёл у Камаях, кальвінскія зборы ў Жодзішках, Койданаве, маньерыстычныя касьцёл у Крамяніцы й царква сьв. Духу ў Менску й г. д.). Пры гэтым і з XVI ст. аўтар «апусьціў» ансамбаль Нясьвіжа (апошняя чвэрць). Як бачым, чыста храналягічны прынцып не надаецца для лягічнага аналізу эвалюцыі дойлідзтва.

Яшчэ больш складанае пытаньне геаграфічных межаў нашае архітэктуры. А.Кушнярэвіч бярэ для аналізу толькі «праваслаўныя цэрквы(?!) тых тэрыторый Літвы й Польшчы, дзе ў XIII—XVI стст. пераважала па колькасьці беларускае насельніцтва (?!)...» Па-першае, ці можна ў гэты пэрыяд адасабляць ад Беларусі ўсходнія тэрыторыі (Смаленшчына, Браншчына) і паўднёвую Латгалію? Па-другое, ці правамерны для Беларусі канфэсійны прынцып адбору? (Ня дзіва, што А.Кушнярэвіч тут сам парушае свой выбар, пачынаючы разгляд пабудоваў XIII ст. з касьцёлаў у Полацку й Смаленску.) А па-трэцяе, што такое «беларускае насельніцтва» ў XIII—XVI ст.?..

Такім чынам, кніга А.Кушнярэвіча яшчэ раз рубам ставіць пытаньне пра межы нашае культуры. Па-першае, гэта межы стылёвыя, якія маюць уласную храналёгію, што не супадае з астранамічнай і ў дадатак накладаецца ў адначасьсе на розныя стылі (барока пачынаецца на Беларусі з 1586 г. і цягнецца аж да 1800-1812 гг.). Розныя краіны Эўропы маюць свае нацыянальныя стылёвыя храналёгіі (да прыкладу, Рэнэсанс у Францыі цягнецца да 1628 г., у Паўночнай Нямеччыне да 1648 (паводле Гартмана), у Англіі — да 1665). Папярэднія спробы зрабіць нацыянальную храналёгію мастацтва й архітэктуры ў нас маюць малапісьменны выгляд (пэрыяд эпохі Кіеўскай Русі, пэрыяд фэадальна-баршчыннай сыстэмы...). А.Кушнярэвіч прапануе сваю тэрміналёгію — «пэрыяд росквіту культавага дойлідзтва (XVI ст.)». Гучыць наіўна. Як і сьцьверджаньне аўтара, што «вызначыць адметныя рысы культавай архітэктуры можна пры параўнаньні з храмамі Літвы».

Што ж датычыцца межаў геаграфічных, то яны павінны адпавядаць этнаграфічным межам Беларусі ў незалежнасьці ад канфэсіяў і палітычных межаў на сёньняшні дзень. Паколькі беларускі этнас на той пэрыяд, якому прысьвечаная кніга, зьяўляўся стрыжнем ВКЛ (як у дэмаграфіі, так і ў культуры), ўсе помнікі ў гэтай дзяржаве ў той ці іншай ступені могуць быць прыцягнутыя дзеля аналізу ня толькі эвалюцыі тэхналёгіяў, але й таго комплексу ідэяў ды густаў, што фармавалі кшталты нашай культуры ў розныя эпохі.

Нацыяналіст

## СЬМЕРЦЬ КАРАЛЯ (II)

**Калідор: Вершы паэтаў (Лявон Вольскі, Лявон Гамонскі, Гамон Кастольскі, Кастусь Ляванец, Кастон Кастунец, Лявось Гальскі, Гамусь Вальманец, Лятусь Магальскі, Саткусь Маганец, Кастусь Гаманец). — Полацак: Полацкае лядa, 1993.**

Гэтая кніга дэманструе нам сьмерць аўтара, лірычнага героя, стылю, жанру, паэтычнае мэтрыкі й паэтычнага дыскурсу ўвогуле. Тое, што пры гэтым застаецца ў жывых паэзія, ёсьць прыемнаю неспадзяванкай.

Паэтыка гэтае кнігі прымусіць здрыгануцца яшчэ не адну генэрацыю традыцыйных беларускіх паэтаў. *Вучы мяне / лічы мяне / зімовы калькулятар,* — просіць Кастусь Ляванец у вершы «Дварняк». «Калідор» — гэта зімовы калькулятар беларускай паэзіі, што спрабуе навучыць яе мове хаосу, распаду, лінгвістычнае безнадзейнасьці.

Апісваць зьмест гэтае кнігі й месца кожнага зь яе аўтараў у гісторыі беларускай літаратуры — не дасі рады. Тэматыка яе надзвычай разнастайная: тут ёсьць вершы пра пеўня, пра сьвіньняў, дварнякоў, пра піратэхніка, Актаэяна й рыцара Грэйфэра, пра дворніка Н, лес і хімікаты, пра квадрат, бубен і лязо, пра чырвонае шкельца, вальсок і трыялет, зрэшты, — пра рознае. Асобна трэба вылучыць «Адказы на лісты, якіх не было» Валюся Лявонскага, якія можна палічыць адказамі на «Лісты рымскаму сябру» Язэпа Бродзкага. Зыходзячы зь сёньняшняга разуменьня, Валюсь Лявонскі досыць удала паказвае, што, магчыма, ня варта было й зьвяртацца, бо камунікацыя на такой адлегласьці заўсёды абцяжараная ўсялякімі гістарычнымі й культурнымі стэрэатыпамі: *Ксавэрый Ксавэтулій, я скажу, / Быў для мяне найлепшы кампаньён / І Вам не зразумець такога ладу / Як мне не зразумець Вас у вастатнім...*

...І ўсё ж ёсьць нейкая сьветлая загадка ў гэтай кнізе. Як быццам бы тайнапісам, па-над рытмічнай какафоніяй ды звар'яцелымі словамі было напісана: неабходнасьць ды немагчымасьць... каханьня. Але гэта ўжо рамантычныя інтэрпрэтацыі... Пакуль жа ўласная паэтыка кнігі, інтэлектуальная шчырасьць ды, зрэшты, і проста пасьлядоўнасьць патрабуе, каб у канцы гэтых рэфлексіяў памёр крытык. Што ж, калі трэба... Я гатовы... Як рыцар Грэйфэр...

*Што адкажаш сёньня мне ты,*
*Мой стары і добры Грэйфэр,*
*Зь дзідай між лапатак дужых,*
*Зь дзідаю ў руцэ магутнай,*
*З позіркам перадсьмяротным,*
*З позіркам заўжды бясстрашным.*
*Што адкажаш сёньня мне ты*
*На заблытаныя словы,*
*Што ляцяць імкліва долу*
*І зьнікаюць бессыстэмна,*
*І канаюць бессэнсоўна...*
*Можаш, як заўжды, маўкліва,*
*Плюнуць, мой шаноўны Грэйфэр,*
*І пайсьці ізноў да піва:*
*У цябе кінжал у горле,*
*І тырчыць са сьпіны дзіда,*
*Ты за гэта маеш права*
*Піва выпіць без чаргі.*

......

Дзякуй, Лявось.

Стывен Д.

## ЖАДАНЬНЕ ПЕРАКУЛІЦЬ АЎТАМАБІЛЬ

Ні слова пра палітыку! Дастаткова наслухацца ранішніх літаратурных перадачаў беларускага радыё, наглядзецца па тэлевізары гэтай дэбільнай эстрады, схадзіць на сустрэчу зь якімі-небудзь «беларускімі пісьменьнікамі», — каб адчуць у сабе хвалю пратэсту й зьмяшанай з абсурдам нянавісьці, неадольнае жаданьне выйсьці на вуліцу й перакуліць аўтамабіль, разьбіць крамную шыбіну, пафарбаваць косы ў зялёны колер...

Гэтае жаданьне ў табе немагчымае й невыноснае, як родавыя схопкі.

Можа таму ты блытаеш яго з натхненьнем, з творчай задумай — з Паэзіяй? Але ў выніку ты нічога не ствараеш. Ты шалееш ад свае слабасьці перад ідыятызмам афіцыёзу. А ўсё таму, што ты — такі самы, як і яны. Табе здаецца, што яны занялі месца Паэзіі. Ты пратэстуеш, але літаратуры ў табе столькі сама, колькі ў іх. Здольнасьці, амбіцыі, боскасьці — столькі сама. Інакш бы твая творчасьць і іхняя разьмясьціліся б у розных плоскасьцях, не сутыкнуліся, і не было б пратэсту. Ты зблытаў літаратуру з афіцыёзам. У цябе не хапіла жаданьня адарвацца ад іх і апынуцца ў вольным палёце. Ты асудзіў сябе на бясплодныя схопкі. Ты так і ня выйшаў на вуліцу, каб перакуліць аўтамабіль, і ўсё, што табе застаецца — папісваць то пад А.К.Талстога, то пад С.Я.Маршака, а ўрэшце пасталець, абдумацца і без асаблівага кайфу крапаць тое, што ў нас называецца «дзіцячай» паэзіяй...

Яшчэ ў такіх выпадках звычайна кажуць — пішыце прозу.

Крыт.

пакінулі прыкметны знак у львоўскім мастацтве й архітэктуры, фартыфікацыі. Іх творчасьць у Горадні нам пакуль малавядомая.

Матэрыялы кнігі сьведчаць пра пашырэньне эстэтычных імпульсаў у межах колішняе дзяржавы XVI — XVII стст., вынікам чаго стала унікальная мастацкая культура Рэчы Паспалітай. З другога боку кніга дапамагае прасачыць, наколькі адметныя былі рэгіянальныя культуры ў тую эпоху. На мастацтва Львова большы ўплыў мелі майстры Сярэдняе Эўропы, а таксама армяне зь іхным досьведам апрацоўкі каменю. Беларусь запазычвала ўплывы адпаведна сваім магчымасьцям, у т.л. і ў будаўнічых матэрыялах. А таму досьвед Львова тычыўся нашага рэгіёну ўскосна, галоўным чынам ў галіне фрагмэнтарнай аздобы асобных інтэр'ераў (алтары, нагробкі) і часткова ў арнамэнтыцы.

Эстэт

# ТРЫ ЭСЭ ПРА ЗАРЭЧЧА

## ААЗІС ГРАЗІ

Раймунд Малашэўскі
(Raimundas Malašauskas)

Кладу галаву, што сапраўдны сьцяг Зарэчча — гэта жаночыя майткі, пачэпленыя на дзяржак трыкалёра на Полацкай вуліцы. Дасьціпны й шматзначны сымбаль гэтага саду вечнае восені. Гэтага ніколі не плямбаванага віленскага зуба й бастыёну чорнага гумару: драўляная цэля, прызначаная для мэдытацыяў іншым месцам, выхваляецца буйнымі літарамі «Hotel»..., мабыць самыя вэртыкальныя агароды ва ўсёй Эўропе караскаюцца на стромых берагох Вялейкі, а члены грамадзтва, відаць, вырашыўшы ўсё яго абапіць, выбіваюць зялёныя дзьверы крамкі з пойлам паляўнічаю стрэльбаю... І няўжо ня тут чуў я самы іранічны й самы сумны з усіх чутых мною дыялёгаў: «... я страшна піў раней... — А цяпер што робіш? — П'ю...»

Вільня ігнаруе гнілы корань свайго плебэйскага жыцьця. Тэрыторыю абсалютна мэтафізычную, бо яна, як здаецца, выкрышылася ў мазгох прыстойнага сталічнага гараджаніна, і разам з тым надалей жывіць іх самым натуралістычным рэалізмам.

І сапраўды, як жа адвечны пасажыр тралейбуса №5 прыгадае сабе Зарэчча, у якім ніякіх асаблівых аб'ектаў грамадзкага значэньня, апрача моргу й Бэрнардынскіх могілак, няма. Бэтонныя й мэталічныя масты праз Вялейку — нібы расстаўленыя на кніжных старонках спасылкі на лемантар сьмерці.

Маё вока на Паплаўскай вуліцы некалі зачапіла акно, у якім з вазона расла старэчая галава — я зразумеў, што толькі на гэтым беразе Вялейкі рэальныя такія спалучэньні рэчаў, — на тым беразе галава расла б хоць бы ўжо з стосу кніг або з футаралу ад акуляраў. Якраз тады маю сьведамасьць працяла думка, што Зарэчча — гэта трыумф прыроды й жыцьця, якія паклалі на лапаткі цывілізацыю й культуру. Аднак трыумф гэты ледзь трымаецца на нагах — таму цёплае тхненьне сьмерці тут наймацнейшае: і ў марнай траве, і ў паточаных гангрэнай фасадах будынкаў, і ў бледным шнары на шчацэ ў мужчыны з кропам. Некультурна, бессаромна цячэ жыцьцё, — астылае й грубае, зашморганае балёневай курткай і заструпянелае коркамі тынку, што адвальваецца з размоклых цокаляў.

Гэта запаведнік бадзягаў, спантанны архіпэляг свабоды ў сталіцы ЛР, які рассыпаў свае мініятурныя амбасады побач зь «Нёманам», «Сокалам», Цэнтральным гастраномам або ў прытулішчах зблуднелых каханкаў муз. Вось сапраўдныя паганцы! — ня нейкія там зьдзяцінелыя гедыміняты, а сапраўдныя грамадзяне Зарэчча зь мяса й костак. Іх ня вабяць абстракцыі й трансцэндэнт — «жыць, каб жыць» — такі жыцьцёвы прынцып пануе тут; і сцэнаграфія сьмерці — не барыкады й ня конскае сядло. Першабытныя эўрапейцы мацюкаюцца на самым трызубцы Полацкіх кумпякоў і час чэрпаюць — заўваж — не хвілінамі, а паўлітрамі. І ісьціна тут існуе вельмі блізка — якраз там, дзе яе зьмяшчае лацінская сэнтэнцыя. Або ў яшчэ мацнейшых напоях. І донжуанства выліваецца не ў сэрэнады, а ў сьвежыя сінякі на фізыяноміях супернікаў.

Аўтэнтычны сцэнар зносінаў зарачанскае публікі ў віленскай мове хаваецца не ў шуфлядах, а ў жылах. Хадзячая энцыкляпэдыя лаянкі — тутэйшы жыхар не паважае грамадзяніна тагасьветнасьці (з другога берагу Вялейкі), які, выгадаваўшы сабе, як рогі, культурныя карані, зваліўся, прыдушаны іхнаю вагою. Адгэтуль міты й паэзія Зарэчча.

Курынае квахтаньне, булькат ракі, галашэньні змарнаваных мужамі жанчын ды «матавыя» стогны рабочых, што цягнуцца ў цэх ранішнім Паплаўскім рэчышчам — вось фрагмэнт сапраўднага гімну Зарэчча. Яго сьняць дзяўчаты ў шаўковых піжамах, калі месяц, пасерабрыўшы ім вусны, працінае падвойныя шыбы акна ў рэспэктабэльным віленскім раёне і, шурхнуўшы ў нябёсах, апускаецца ў чарніліцу Ю.Кунчына, каб ягонае пяро вырвала з памяці яшчэ адну ілюстрацыю рамантычнае эстэтыкі Зарэчча...

Дамам і рыцарам палітры й пяра Зарэчча кладзе ў рот адну з сваіх казырных цыцак: яно жывіць іх кактэйлем адзінства прыроды, культуры й чалавека. Яны расплаўляюцца ў рэторце спантаннае свабоды (шумаваць і гніць) і жывапіснага бачаньня. Фізычны твар Зарэчча — самы фотагенічны й натуральны на геаграфічным прасьцягу над Нёмнам і Шашупай. Найтаньнейшы падручнік жывапісу для калярыста нацыянальнае душы. Бо пазбаўлены ясных і дакладных формаў, культурнае касмэтыкі, жывёльна шчыры й насычаны водарам сьмерці.

Тут ня маюць улады валявыя культурныя стылі: нават архітэктура, здаецца, ніколі не цікавілася сваім выглядам, а толькі, урэзаўшыся ў гарбы рэльефу, смактала зямную кроў і сталася падобная да... заалягічнага саду. Ёй не засталося нічога іншага, як толькі капітуляваць перад курамі, парсюкамі й катамі ды абрасьці згусткамі хлявоў і паветак. У хвалёвыя формы барока праз шчыліну ў драўляным плоце талопіцца сыты бурак, а мае вочы казыча іранічная оптыка: на адной паралелі вісіць замак Гедыміна й шпакоўня нейкае крылатае істоты, — і пры гэтым апошняя ня толькі большая памерамі, але й, відавочна, больш рэальная й матэрыяльная. У якой іншай мясьціне Вільні рэальнасьць здольная дэклямаваць такія калямбуры?

А ўвогуле мясцовая публіка да мастацтва патрабавальная; аднойчы сябар, натхнёны прыкладам Рэмбрандта, кінуўся заганяць зарачанскія формы на цынкавую пласьцінку, уладкаваўшыся ва ўтульным міжбрам'і. І вярнуўся сіні: вастрыё крытыкі было скіраванае проста пад вока. Гэта яго не адстрашыла. Не баяцца Зарэчча й чулыя душы, дзяўчаты, што прыплылі нібы з калядных паштовак і плёхаюцца тут нібы ў ване з шляхотнае гразі. Відаць, парадокс гэтага прыцягненьня такі: нярэдка толькі ў цэнтры найбруднейшага заняпаду адкрываецца найчысьцейшы катарсіс і спазнаньне сябе як сьмяротнае й недасканалае істоты. Згнілая культура й жыцьцё даюць зьнямоглай душы шанец упрыгожыцца крыламі. І... перамахнуўшы праз Вялейку, лётуценна адляцець на фаянсавым кля- зэце дзесь у Балтупах — каб зразумець: Зарэчча вабіць толькі здалёк, яно прыгожае толькі з пэўнае адлегласьці; улезшы ў ягоную шкуру, ты забудзесься ўсе прысьвечаныя яму санэты й зразумееш, што паваенная цывілізацыя з замёрлым у летаргічным сьне фантанам — не для цябе. Аднак стацца яго каханкам (або каханкай) — чаму не?

Гэты віленскі раён сёньня фаталіст да мозгу касьцей і абсалютны безнадзейнік: яму напляваць на ўсё — ён ганарыцца сваёй ганьбай. І нічога яго не кранае — гэтая культура мысьліць прыроднымі мазгамі, а там згасаньне й сьмерць — прынцып. Праўда, як і адраджэньне...

І ўсё ж: якая жорсткая й салодкая гэтая кропля дажджу, якая, пракаціўшыся па лобе зарачанскага п'яніцы, замурзаная падае на зямлю...

## ПРАЗЬ ЗІМОВУЮ МГЛУ

Эдмунд Гедгаўд
(Edmundas Gedgaudas)

Спусьціўшыся зь Місіянэрскага схілу, я зварочваю на дарогу, што вядзе ў Зарэчча. Іду праз зарослыя пусткі, паўз чатырохкутны стаў (адзіная рэштка цудоўнага кляштарнага саду). Усё вышэй вырастае касьцёл Сьв. Баўтрамея, і спазор мяняецца з кожным крокам. Толькі што муры, дахі, старыя дрэвы прадмесьця былі бязладна рассыпаныя, а цяпер касьцельная вежа сабрала іх у спарадкаваны грудок, і я бачу, што гэта ўжо не прадмесьце, як здавалася з схілу, а асобны малы горад, варты старадаўняе гравюры зь мяшчанамі на краі лугу і з коньнікам, што едзе праз мост.

Мост — гэта й быццам нейкая брама, што ўводзіць сваю іншасьць у здалёк аб'яўленую зямлю — за ваду, за мяжу. Утульным паваротам і цікаўным позіркам ката, што сядзіць на падваконьні, сустракае Паплаўская вуліца. У міжбрам'і гамоняць дзьве суседкі, адна ў руцэ трымае замурзаную торбачку з прадуктамі, другая паліць цыгарку, старамодна-зыркая чырвань памады падкрасьляе бяззубную запаласьць вуснаў. Брама адгукаецца плёскатам вады, і нават ня бачучы ты ведаеш, што гэта — сапсаваны гідрант, сацыялістычны фантан старасьвецкага двара.

Справа, у глыбіні прагалу паміж дамамі, на строме, умацаванай высокім мурам і кантрафорсамі, зноў бачу той самы адзіны зарачанскі касьцёл. Калі глядзець на яго згары, ён здаецца задаволеным паўдзённай вясковасьцю сваёй вежы і ўсяго наваколья, ён зусім не адчувае сябе такім маленькім, якім падаецца таму, хто ўвойдзе на цьвінтар зь верхняе вуліцы.

Крыху далей, дзе Паплаўская вуліца выходзіць на адзінае скрыжаваньне вуліц ніжняга Зарэчча, нечаканае ўражаньне змушае ўздрыгнуць і спыніцца — няўжо ж столькі дамоў зруйнавалася! Праз пустыя вачніцы вокнаў плыве, зьмяшаны з адлігаю, смурод нежывых будынкаў, быццам у тую паваенную вясну на руінах віленскага гета.

Вось і падобныя на пацучыную пастку дзьверы гастранома на рагу, славутага *par excellence* пралетарскім стылем. Я прыгадваю, як тут жыцьцё буяла вольна перайначанымі хорамі бадзягаў з опэры «Барыс Гадуноў»! Сёньня, хоць у паветры ўсё яшчэ трывае пах, характэрны толькі савецкай сфэры абслугоўваньня, відовішча ўжо не зусім тое. Альты за прылаўкамі крыху прыгасьлі — можа сёньня замала сабралася тут млява-пахмельных басоў або пераліўна-плаксівых сапрана?

Нясьпешна пераходзячы вуліцу, стараюся не глядзець на руіны. Справа праз адліжны туман на гары Збаўцы імгляцца вежы Місіянэраў і купал Візытак, з другога боку пэрспэктыву Млыновай вуліцы шчыльна зачыняе Сьвятая Ганна й гара Гедыміна. Я ведаю, што, калі прайсьці вуліцай, кадар разгорнецца і ў яго трапяць Бэрнардыны — вобраз, які вынесьлі з сабою з гэтага сьвету ціхія сёстры апекаванага Львом Сапегам кляштару.

Па вуліцы, што паднімаецца ўгору, брукаванай каменьнем і ажыўленай стукатам конскіх капытоў, позьняй восеньню 1911 году йшоў Ян Булгак. Ён прыехаў зь Беларусі, зь невялікага маёнтку, і шукаў дом у двары, пазначаным нумарам 24. Ішоў шукаць парады ў Фэрдынанда Рушчыца, на той час ужо шырока вядомага аўтара карцін «Зямля» й «Nec mergitur». «У кішэні я нёс з сабою пачак сфатаграфаваных мною краявідаў, а ў сэрцы — вялікае хваляваньне», — пісаў ён ва ўспамінах. Першыя прасторныя карціны гораду й прыроды, што прымусілі яго ўсё ўбачыць інакш, адкрыліся яму з бальконy мастаковае кватэры: «...гэты парк, што патануў у глыбокай даліне, аперазаны дугою Вялейкі, тут жа гатычныя сьпічакі Сьвятой Ганны, масыўная глыба Бэрнардынаў і зграбны дах Сьвятога Міхала. Стромыя схілы Папоўкі й пукатыя вяршыні Алтарыі ўтвараюць прыгожыя элемэнты віленскага краявіду, быццам бы ўкладзеныя рукою мастака ў сынтэз карціны... [...] Пазьней гэты Рушчыцаў пэйзаж я ня разназіраў у штораз іншым асьвятленьні, у розныя поры году, і ніколі ня мог нагледзецца ўдосыць». Тое, што ў ім абудзіўся дагэтуль у фотамастацтве неперaўзыйдзены пясьняр віленскае прыгажосьці, — заслуга Фэрдынанда Рушчыца й мясьціны, у якой ён жыў.

Адліга зьмякчае гукі, вокны слухаюць плёскат кропляў і дрымотна ўплятаюць іх у даўно забытыя мэлёдыі катрынкі. Вуліца, што канчаецца рынкавым пашырэньнем і пачынаецца там дзьвюма іншымі, спрабуе сумна ўсьміхнуцца таму, хто заўважыў гэтае падабенства з больш шляхотнаю вуліцай — па той бок ракі, там, дзе ратуша з калёнамі. Ясна, колькі тут таго падабенства, скептык толькі пацісьне плячыма, аднак я выклаў бы яму — як бляск дыямэнту сярод попелу — унікальнасьць Зарэчча: двары, дзе зь нечаканае вышыні штораз інакш адкрываецца горад, або двары з горамі перад самым домам. Аброслыя дрэвамі й кустамі, яны

VILENSKI PLAN

Naša Niva

# Memaryjalnyja miaściny

1. Drukarnia Franciška Skaryny ŭ domie Jakuba Babiča, memaryjalnaja šylda, skulptura «Letapisiec» — vul. Vialikaja (Didžioji, 19)

2. Memaryjalnaja šylda A.Mickievièu — b. zav. Litaracki (Literatų, 5)

3. Dom-muzej A.Mickieviča — b. zav. Zamkavy (Bernardinų, 11)

4. Pomnik A.Mickievièu — b. vul. Šv. Hanny (Maironio, kala kaścioła Šv. Hanny)

5. Dom dzie žyŭ i pamior Syrakomla, dzie byŭ Biełaruski kaaperatyŭny bank, Tavarystva «Pčała» — b. vul. Karaleŭskaja (Barboros Radvilaitės, 5)

6. Pomnik S.Maniuški — vul. Vilenskaja (Vilniaus, nasupr. d. 39)

7. Miesca straty S.Kanarskaha — roh vul. Kanarskaha i Račnoj (S.Konarskio / Raseinių)

8. Dom, dzie byŭ aryštavany K.Kalinoŭski — vul. Zamkavaja (Pilies, 19)

9. Memaryjalnaja plita paŭstancam 1863 h. — Łukiski plac

10. Dom Zyhmunta Nahrodzkaha — vul. Zavalnaja (Pylimo, 9)

11. Biblijateka B.Daniłoviča (1904-1907 hh.) — b. pr. Juraŭski, roh Tatarskaj (Gedimino pr., 14/1 roh Totorių)

12. Himnazija Prozaravaj — b. vul. Chersonskaja (A.Jakšto, 9)

13. «Arciel drukarskaj spravy» — vul. Vialikaja (Didžioji, 33 roh vul. Rudnickaj (Rūdninkų)

14. Drukarnia Marcina Kuchty 1906-1911 h. ciapier kaviarnia «Aliumnatas» — b. vul. Pałacavaja (Universiteto, 4)

15. Redakcyja «Našaj Doli» — vul. Vilenskaja (Vilniaus, 21)

16. Redakcyja «Našaj Nivy» u 1906 h. — b. vul. Vialikaja Pahulanka (J.Basanavičiaus, 17)

17. Redakcyja «NN» u 1907 h. — vul. Zavalnaja · (Pylimo, 45)

18. Pałac Tyškievičaŭ (Redakcyja «Našaj Nivy» u 1907-1908 hh.) — vul. Zavalnaja, roh Trockaj (Pylimo, 26/1, roh Trakų)

19. Redakcyja «NN» u 1908-1910 hh. Dom nie isnuje, na jaho miescy ministerstva suviazi Litvy — vul. Vilenskaja roh b. Novaj (Vilniaus, 33)

20. Redakcyja «NN» ŭ 1910-1914 hh., Kniharnia Biełaruskaha vydavieckaha tavarystva, Kvatera V.Łastoŭskaha, memaryjalnaja šylda Lazdinu Pialedzie — vul. Zavalnaja, roh b. Małoj Pahulanki (Pylimo, 5/1, roh vul. K.Kalinausko) 18.

21. Redakcyja «NN» u 1914-1915 hh. memaryjalny znak Janku Kupału — vul. Vilenskaja (Vilniaus, 14)

22. Kniharnia Piaseckaj-Šlapelis — vul. Daminikanskaja (Dominikonų, 11)

23. Biblijateka B.Daniłoviča «Viedy» — b. Juraŭski pras. (Gedimino pr. 2)

24. Dom, u jakim adbyŭsia pieršy spektakal «Paŭlinki» Janki Kupały — vul. Vilenskaja (Vilniaus, 39)

25. Špital «Mišmeeres Chojlim», ciapier 3-ja lakarnia — b. vul. Kijeŭskaja (Kauno)



Šv. Hanna, Bernardynski klaštar. Zdymak Alesia Pruskaha

26. Biblijateka Barysa Daniłoviča ŭ 1911-1921 hh., ciapier rest. «Palanga» — vul. Vilenskaja (Vilniaus, 10/16) roh pr. Hiedymina

27. Drukarnia Marcina Kuchty ŭ 1911-1919 h.h. — vul. Tatarskaja (Totorių, 20)

28. Vydaviectva B.Kleckina — b. vul. Małaja Stefanskaja (Raugiklos, 23)

29. Biełaruskaja Vydavieckaje Tavarystva — vul. Kaštanavaja (Kaštonų, 5)

30. Biełaruski Klub ŭ 1920-ja hh. — b. Biskupskaja (Universiteto)

31. Kniharnia Biełaruskaha Vydavieckaha Tavarystva — vul. Vostrabramskaja (Aušros Vartų, 1)

32. Dom, u jakim žyła Alona Sakałova-Lekant — vul. Vostrabramskaja (Aušros Vartų)

33. Bazylanskija mury: memaryjalny pakoj A.Mickieviča «Cela Konrada», Vilenskaja Biełaruskaja Himnazija, Muzej imia I.Luckievièa — b. Vostrabramskaja (Aušros Vartų, 7)

34. Internat Vilenskaj Biełaruskaj Himnazii — vul. Vialikaja (Aušros Vartų)

35. Dom, dzie žyŭ Branisłaŭ Taraškievič (1921-1922 hh.) — vul. Bakšta (Bokšto, 21)

36. Biełaruski kaaperatyŭny bank, tavarystva «Pčała» — vul. b. Hdańskaja (Islandijos, 1)

37. Biełaruski Narodny Dom — b. vul. Šv.Hanny (Maironio, 4)

38. «Biełaruskaja Chatka» — roh Ludvisarskaj i Vilenskaj (Liejyklos, 2 / Vilniaus)

39. Dom, dzie žyŭ A.Łuckievič, Biełaruski kaaperatyŭny bank, Studencki sajuz, redakcyji časopisaŭ «Zaranka» i «Sacha» — Vilenskaja (Vilniaus, 41)

40. Biełaruski Instytut Haspadarki i Kultury — b. vul. Vostrabramskaja (Aušros Vartų, 6)

41. Drukarnia im. Franciška Skaryny — vul. Zavalnaja (Pylimo, 6 kv.10)

42. Drukarnia im. Franciška Skaryny (1926-1930 hh.) — vul. Ludvisarskaja (Liejyklos, 1)



Zdymak Alesia Kryštapoviča






43. Miesca, dzie byŭ dom drukarni imia F.Skaryny (1936-1939) i redakcyi bieł. hazet i časopisaŭ — vul. Zavalnaja (Pylimo, skver z pomnikam P.Ćvirki)

44. Centar Biełaruskaj Chadecyji, redakcyja «Kałośsia» — Zavalnaja 1/2 (Pylimo), dom nie isnuje

45. Kniharnia St.Stankieviča — Subač, 1 (Subačiaus), ciapier tut aŭtastajanka

46. Dom, dzie była redakcyja presy j sakrataryjat Sialanska-Rabočaj Hramady i inš. bieł. arhanizacyi — vul. Vilenskaja (Vilniaus, 37)

47. Redakcyja «Małanki» — vul. Hietmanskaja (Etmonų, 4)

48. Pasolski klub «Zmahańnie» — b. vul. Piŭnaja (M.Daukšos, 13/12)

49. Dom, dzie žyŭ Uł.Samojła — vul. Ludvisarskaja roh Banifrackaj (Leijyklos, 10/13)

50. Dom a. Alaksandra Kaŭša — Letniaja (Vasaros, 7)

51. Dom, dzie žyŭ Ryhor Šyrma (1928-1939 hh.) — b. vul. Šv.Hanny (Maironio, 13)

52. Mohiłki Rosy. Mahiły J.Lalevela, Uł. Syrakomli, M.Čurlonia, Jadvihina Š., K.Svajaka, L.Vitan-Dubiejkaŭskaha, F.Alachnoviča, I. i A.Łuckievičaŭ, Uł.Paŭlukoŭskaha dy inš. — vul. Vial. Rosa (Rasų)

53. Kvartał, uźviedzieny pavodle prajektu L.Vitana-Dubiejkaŭskaha — pamiž vul. Kaściuški, Halanderkaj i Praskokami (T.Kosciuškos / Olandų / Pervažos)

54. Siadziba L.Vitana-Dubiejkaŭskaha — Padhornaja (Pakalnės, 2)

55. Biełaruski Nacyjanalny Kamitet u Vilni (1941-1944 hh.) — Hiedymina (Gedimino, 4)

56. Dom, dzie žyŭ Kanstancin Hałkoŭski (1918-1959 hh.) — vul. Zavalnaja (Pylimo, 20)

57. Dom, dzie žyŭ P.Sierhijevič — Antokalskaja (Antakalnio, 30)

58. Redakcyja hazety «Naša Niva» z 1991 — Žyhimonta (Žygimantų, 12/2)

*Plan Vilni, śpisy vulic, pomnikaŭ i memaryjalnych miaścinaŭ padrychtavaŭ S.Chareŭski. Aŭtar vykazvaje padziaku šanoŭnamu Lavonu Łuckievіču za materyjały j kansultacyji.*

VILENSKI PLAN

Naša Niva

# Pomniki architektury

1. Vierchni zamak, vieža Hiedymina — Zamkavaja hara

2. Nižni zamak, Arsenał — pad Zamkavaj haroj

3. Katedralny kaścioł i zvanica — Katedralny plac (Katedros a.)

4. Vostraja Brama — vul. Vostrabramskaja (Aušros Vartų)

5. Piatnickaja carkva — vul. Vialikaja (Didžioji)

6. Kaścioł Śv. Mikałaja — vul. Śv.Mikałaja (Mikalojaus)

7. Pračyścienski sabor — b. vul. Mitrapalitalnaja (Maironio)

8. Carkva Śv. Mikałaja — vul. Vialikaja (Didžioji)

9. Kaścioł Śv. Hanny — b. vul. Śv. Hanny (Maironio)

10. Kaścioł i klaštar bernardynaŭ — b. vul. Śv. Hanny (Maironio)

11. Kaścioł i klaštar franciškanaŭ — vul. Trockaja (Trakų)

12. Kaścioł Śv. Jana, Universytet, pomnik Uł.Syrakomli, paміž Universyteckaj, Zamkavaj i Śv. Jana (Universiteto / Pilies / Šv. Jono)

13. Carkva Śv. Trojcy, Bazylanskija mury, brama — b. vul. Vialikaja (Aušros Vartų)

14. Kaścioł Śv. Kazimira, klaštar jezuitaŭ — vul. Vialikaja (Didžioji)

15. Kaścioł Śv. Michała — vul. Śv. Michała (Šv. Mykolo)

16. Kaścioł i klaštar daminikanaŭ. Memaryjalnaja šylda K.Kalinoŭskamu — vul. Daminikanskaja (Dominikonų)

17. Kaścioł Śv.Terezy — vul. Vostrabramskaja (Aušros Vartų)

18. Kaścioł Śv. Stefana, mahiła L.Stoki-Hucevіča — vul. Śv. Stefana (Šv. Stepono)

19. Kaścioł Śv. Jakuba i Śv. Pilipa — Łukiski plac

20. Carkva i manastyr Śv. Ducha — vul. Vostrabramskaja (Aušros Vartų)

21. Kaścioł Śv. Ihnata i klaštar jezuitaŭ — zav. Śv. Ihnata (Šv. Ignoto)

22. Kaścioł Pana Jezusa i klaštar trynitaraŭ — b. vul. Trynitarskaja (Smėlio)

23. Kaścioł Piatra i Paŭła — vul. Antokalskaja (Antakalnio)

24. Kaścioł i klaštar vizytak — vul. Vial. Rosy (Rasų)

25. Kaścioł Usich Śviatych — vul. Rudnickaja (Rūdninkų)

26. Kaścioł banifrataŭ (Małaja zala baroka) — roh Banifrackaj i Ludvisarskaj (S.Daukanto a.)

27. Kaścioł i klaštar misyjaneraŭ — vul. Subač (Subačiaus)

28. Kaścioł Śv. Kaciaryny, klaštar karmelitak — vul. Vilenskaja (Vilniaus)

29. Kaścioł Śv. Rafała — vul. Vilkamirskaja (Ukmergės)

30. Kaścioł Śv. Baŭtramieja — vul. Zarečnaja (Užupio)

31. Lutaranskaja kircha — vul. Niamieckaja (Vokiečių)

32. Kalvinski zbor — vul. Zavalnaja (Pylimo)

33. Kaścioł aŭhustynaŭ — vul. Savič (Savičiaus)

34. Carkva Śv. Michała — vul. Kalvaryjskaja (Kalvarijų)

35. Znamienskaja carkva — na Źviaryncy (Vytauto)

36. Carkva turemnaja — u panadvorku turmy na Łukiškach.

37. Carkva Kanstancina i Aleny (Ramanaŭskaja) — vul. J.Basanoviča (J.Basanavičiaus)



Kaścioł Śv. Terezy. Zdymak Aleny Adamčyk

38. Kaścioł Serca Jezusava (pałac kultury budaŭnikoŭ) — vul. Vicienia (Vytenio)

39. Žyły dom u styli renesansu — vul. Zamkavaja (Pilies)

40. Pałac Lva Sapiehi — b. vul. Śv.Hanny (Maironio)

41. Pałac Radziviłaŭ — vul. Vilenskaja (Vilniaus)

42. Pałac Słuškaŭ — vul. T.Kaściuški (Kosciuškos)

43. Ratuša — vul. Vialikaja (Didžioji, 51)

44. Pałac hieneral-hubernatarski — b. vul. Biskupskaja (S.Daukanto a.)



Zdymak Alesia Kryštapoviča

*Na Vilenskim Planie «NN» paznačanyja nia ŭsie vulicy, nia ŭsie pomniki j nia ŭsie memaryjalnyja miaściny. Vialikaja častka miesta zastałasia za ściśłymi ramkami našaha Planu. Adnak, hałoŭnyja abjekty tut jość. Aryjentacyja prapanujecca pavodle śpisu vulic i adpaviednych kvadratach. Bolšymi dy tłuściejšymi ličbami paznačanyja architekturnyja pomniki, mienšymi dy śviatliejšymi — memaryjalnyja miaściny.*

ўзвышаюцца ў дзіўным забыцьці, нібы нейкія маманты.

У мэлянхалічную далячынь, нібы ў нейкія подступы да Азіі, ад рынку працягнулася Полацкая вуліца. Яна яшчэ не была такая, калі бэрнардыны са сьпевамі пачыналі праводзіць тут труны ў вазох у апошнюю дарогу. Замест засеянага маёнткамі прадмесьця яшчэ не было змураванае мяшчанскае Зарэчча. А што прыйдзе замест яго, калі сёньня яно ўжо канчае станавіцца мінуўшчынай? Каму яно распавядзе пра Рушчыцавы маскарады, славутыя сваімі выдумкамі й элеганцыяй? Пра тое, як гэтыя стромы адкрылі яму дух Вільні. Або як пазьней ён вучыў незразумелай «здароваму розуму» філязофіі шмат каго з наведнікаў гэтых мясьцінаў, даваў адчуць сябе ў віленскім Манмартры, спазнаць, як спрыяюць сузіраньню й творчасьці ўзгоркі, акружаныя бурліваю вадою.

Калі я спускаўся сьцяжынкай з Рушчыцавага двара да будынку Акадэміі на правым беразе, мяне абагналі вясёлыя звонкагалосыя студэнцкі. Гляджу, як аддаляюцца іхныя галовы, у якіх яшчэ снуецца візія ўваскрослага Зарэчча. Ці павернецца гэты горад у горадзе да вежаў і сьвятых гораў, што абступілі яго, або й надалей пакіне гэтую містычную повязь у закутках сваіх двароў?

*** * ***

Станіслаў Якімовіч
(Stanislovas Jakimavičius)

У Старым Горадзе мы гуляем паўз будынкі паштовачнае прыгажосьці, яны ладна прыбраныя, але набылі ўжо іншы дух дый іншае прызначэньне. Нешта, няведама што, проста вядзе мяне далей ад тых кварталаў у парадный форме праз Сярэйкіскі парк, або парк сац. моладзі, які пасьпеў добра зьмяніцца, вачамі я адзначаю тыя мясьціны, дзе раней стаяў легендарны «сарай», кінатэатар «Летні» й слонікі пры фантане. Не, і тут ня тое месца, дзе было б утульна. Даводзіцца йсьці далей, уздоўж выгіну Вялейкі, да старое вадакачкі, пабудаванай перад першай сусьветнай вайной. Каля будынку новай Акадэміі Мастацтваў і маста праз Вялейку спыняесься паглядзець, як плялёхаюцца ў вадзе даволі сытыя качкі. Тут жа й касьцёл Бэрнардынаў, а на другім беразе ракі — былы Бэрнардынскі сад; цяпер занядбаны жылы дом з даўгою адкрытаю галерэяю, што працягнулася праз усю даўжыню другога паверху. Даўней, кажуць, кляштар з касьцёлам над ракою злучала крытая галерэя, разбураная некалі лядовымі крыгамі падчас разводзьдзя. Цяпер жа былы будынак кляштару не нагадвае ні пра кляштар, ні пра бэрнардынаў; увесь аблуплены, можа ад таго грукату, які ўздымаюць, калі пацяплее, колішнія «сарайскія» хуліганы — цяпер ужо сьсінелыя ад жыцьцёвых нягодаў спэцыялісты даміно. Яны ўсаджваюцца тут жа каля сваіх кватэраў, вынесшы зэдлікі на сонечную галерэю, завешаную бялізнай, якая, мабыць, не здымалася ад мінулага стагодзьдзя. Жыхары гэтага ды падобных зарачанскіх дамоў ужо даўно не зьвяртаюць ніякае ўвагі на мастакоў, што ўладкаваліся ў двары на складных крэслах, якіх тут пабольшвае позьняю вясною. Тут ужо Зарэчча. Па-польску Zarzecze, па-расейску Заречье. Жывуць тут зарачане, што паходзяць ад зьбяднелых баяраў, або й няведама адкуль, прыціснутыя нягодамі, часта нялоленыя грамадзяне. Калі ў бальшыні зь іх запытацца, адкуль яны паходзяць, дык не прыгадаюць; калі спытаесься пра гісторыю Вільні, яны распавядуць пра тыя часы, калі піва было таньнейшае, і як часам весела выпівалі на месцы былога млына, каля «бацькавай магілы». Або раскажуць, як некалі квітнелі тут слаўныя на ўвесь раён рыбныя й мясныя крамкі. А якія танныя былі тады кількі! Усё сапсаваў Андропаў, калі пачаў абмяжоўваць гарэлку. Тады зачынілі й піўныя кіёскі на Зарэччы. Людзі раззлаваліся, узялі й перасталі піць. Кількі сталіся непатрэбныя. Рыбную краму зачынілі, а пра мясную побач — усе забыліся, бо ўжо пару гадоў ня бачылі там ніякага мяса. Яшчэ й цяпер насупраць гастранома, што прытуліўся на рагу вуліц Зарэчнай і Паплаўскай, стаяць з закалочанымі вокнамі кармільцы зарачанаў эпохі сацрэалізму — мясная й рыбная крамы. Тут і сыфоны запраўлялі. Яшчэ й на пачатку стагодзьдзя казалі, што Зарэчча — прадмесьце Вільні. Дамы тут былі таньнейшыя, чым у Новым Месьце, дык і жылі тут небагатыя рамесьнікі, дробныя гандляры й простая гарадзкая бядота. Няпісанага статуту прадмесьця трымаліся на Зарэчы й часамі сацрэалізму. Тут не будавалі новых шматкватэрных дамоў з шырокімі бальконамі й падземнымі гаражамі, не садзілі дрэваў і не пашыралі вуліц. На Зарэчы не жылі ні слугі народу, ні песьняры той эпохі, яны выбіралі сабе дамы на Зьвярынцы ці на Антокалі. Тут дамы не рамантавалі й не бурылі, пакуль яны не пачыналі бурыцца самі. Ужо стаўся нежылым заходні бок вуліцы Млыновай, частка зарачанскіх дамоў стаіць з закалочанымі вокнамі. Аднак усё адно тут хараша прагуляцца, асабліва ў нядзелю папалудні, калі не грукочуць навакольныя заводы, ніхто не бяжыць узмоклы на службу, не ганяюць сьмецьця машыны. У нядзелю тут іншае жыцьцё. Вось бабулька з хрустам у суставах цягне вядро вады ад калёнкі ў суседнім двары і, праходзячы міма невялічкага натоўпу, што чакае на вуліцы каля гастраному, кідае нейкае дасьціпнае слоўца на ім адным зразумелай мове. Не зьвіняць у нядзелю на Зарэчы званы касьцёла Сьв. Баўтрамея, не зьвіняць яны й на гары за рэчкай. Ціха й спакойна на былым вясковым рынку, дзе ў гады прыгнёту кішма кішэла гандлярамі й купцамі з усіх куткоў Вільні. Касьцёл Сьв. Баўтрамея бядуе, як і ягоныя суседзі — шматкватэрныя дамы з даўгімі квадратамі, поўнымі старога хламу, плесьні й паху таннага віна. На паўдзённым баку Зарэчнай вуліцы жыхары, што пасяліліся бліжэй да стромага схілу, ледзь дачакаўшыся раньняе вясны, сьпяшаюцца на ўробленыя тут жа, на схілах гары, лапікі зямлі, аддзеленыя адзін ад аднаго адмысловымі агароджамі, тэрасамі. Сёй-той і курэй тут схітраецца трымаць. Аднак найцікавейшае адбываецца на вялікія сьвяты. А яны бываюць атрымаўшы зарплату, украўшы што кепска ляжала й за паўдарма прадаўшы, або як памрэ цешча ў суседа. Тады ўвесь навакольны народ балюе да поўнага ачмурэньня, скандалу раённага маштабу або забойства мясцовага значэньня, пасьля чаго страсьці адразу супакойваюцца й нейкі тыдзень усе навокал ціхія, як рыбы, бо нетрыманьне языка за зубамі на Зарэчы трактуецца як злачынства супраць мясцовае супольнасьці й караецца на месцы. Такая непісаная канстытуцыя Зарэчча, якой вымушаныя падпарадкоўвацца й тыя, хто нядаўна перабраўся сюды жыць. А перабіраецца жыць на Зарэчча шмат хто, і выбіраюць сабе дамы й кватэры залежна ад таўшчыні кашалька й знаёмстваў у сыстэме прыватызацыі. Абсталёўваюцца новыя гаспадары й на Паплаўскай вуліцы, у засені касьцёла, і на закуранай Зарэчнай вуліцы, што калісьці тут была галоўная й злучала Стары Горад з усходнімі віленскімі прадмесьцямі. Ёсьць новыя гаспадары й зусім недалёка ад Сталовай гары, адкуль праз вокны можна глядзець на дах Катэдры або на Бэкешаву гару. Новыя гаспадары ня бураць дамы, не пашыраюць вуліцы, а перарабляюць свае кватэры, каб было ўтульней жыць. Ня вернеш Зарэчу старое рамантыкі з вуліцамі, поўнымі саней з мукою з млына, з жыдоўскімі крамкамі або дравяным рынкам на горцы, дзе цяпер сквэр. Выцясьняецца адсюль і стары, паваеннага засяленьня, элемэнт. Гэта тыя рабочыя, або іхныя нашчадкі, якія й зрабілі Зарэчча такім, якім мы цяпер яго бачым. Але ў жыцьці не бывае так, што ўжо заўтра будзе штось іншае, што зноў зазвоняць званы зарачанскага касьцёла, што будзе адрамантаваны нядзейны фантан.

Цяпер раніца, каля дзявятай. Ужо езьдзяць першыя возьнікі (таксісты), каты яшчэ сьпяць на пыльных падваконьнях з фікусамі, а на пляцоўцы каля «моргу» два кудлатыя дваровыя сабакі спрабуюць узьлезьці на гэткую ж сваю сяброўку. Таксіст іх аб'яжджае.

Пераклад зь літоўскай BKZ



Algimantas Kunčius, 1969

# РУДАБЕЛЬСКІ ГЕНАТЫП

Георгі Колас

**Неяк здарылася так, што ні адна газэта ў Беларусі не зьвярнула ўвагі на культурную падзею, на якую сьвет пачціва адгукнуўся напярэдадні калядаў у мінулым сьнежні: 75-годзьдзе Аляксандра Салжаніцына. Быццам мы дасюль жывем ва ўмовах падначаленьня партыйна-бальшавіцкаму «табу», накладзенаму на ягонае імя.**

Памятаю, як у «ЛіМе» з год назад адзін пісьменьнік быццам мімаходзь брыкнуўся ў адрас Салжаніцына, абвінавацiўшы яго ў імпэрскім ладзе мысьленьня, — ён спасылаўся на брашуру Салжаніцына «Як нам асталяваць Расею». Брык застаўся брыкам, больш ніхто не адгукнуўся. Мабыць, праявіў сябе інстынкт цэхавай пісьменьніцкай субардынацыі, — бо, калі ўявіць сябе на фоне 24-томніка мастацкай прозы Салжаніцына з 16-цю тамамі ягоных дасьледаваньняў і аналізу праблемаў найноўшае гісторыі, нялішне будзе азірнуцца й падумаць: з кім жа ты наважыўся — «у рожкі»? Я ўжо не кажу пра ўзровень духу ягоных твораў, пра культуру творчасьці, і самае галоўнае — пра неадольнае імкненьне і ўменьне жыць па праўдзе.

Чым жа ён не дагадзіў нам, беларусам, у сваёй брашуры?

Я захоўваю яе — спэцвыпуск «Комсомольской правды». «Пасільныя меркаваньні». Ліпень, 1990 год. Ніхто яшчэ ня мог тады прадбачыць, што СССР разваліцца так хутка, і на нас абрынецца зьнянацку — сувэрэнітэт.

Ён папярэджваў і сябе, і нас: «Непасільна цяжка складаць якую-колечы ладную распрацоўку наперад: яна хутчэй за ўсё будзе ўтрымліваць больш памылак, чым рацыяў, і зь цяжкасьцю пасьпяваць за рэальнай хадою падзеяў. Але і: нельга зусім не спрабаваць».

У сваім звароце «Слова да ўкраінцаў і беларусаў» ён пісаў: «Мы разам перапакутавалі савецкі час, разам трапілі ў гэты катлаван — разам і выберамся».

Хіба тут — «імпэрскасьць»?

Пішучы зварот да нас, ён спадзяваўся, што мы ведаем ягоную пазыцыю шырэй — зь ягоных ранейшых твораў.

Прыгадаем. «Архіпэляг ГУЛАГ», т.3, ст.47 і 48: «Мне балюча пісаць пра гэта... Але вялікі досьвед сяброўства з украінцамі ў лягерох адкрыў мне, як у іх набалела. Нашаму пакаленьню не пазьбегнуць заплаціць за памылкі старэйшых.

Тупнуць нагой і крыкнуць «маё!» — самы просты шлях. Невымерна цяжэй прамовіць: «Хто хоча жыць — жывіце!». І падыходзіць час нам, падабаецца ці не падабаецца, — плаціць па вэксэлях аб самавызначэньні, аб незалежнасьці, — самім плаціць, а не чакаць, што нас будуць паліць на вогнішчах, у рэках тапіць і галовы сьцінаць. Ці вялікая мы нацыя, мы мусім даказаць не агромнасьцю тэрыторыі, ня лікам падапечных народаў, — але веліччу ўчынкаў. І глыбінёю ворыва таго, што нам застанецца за вылікам земляў, якія жыць з намі не захочуць... Мы абавязаныя аддаць рацыю ім самім — фэдэралістам ці сэпаратыстам, хто ў іх каго пераканае. Не саступіць — вар'яцтва й жорсткасьць».

Калі гэта — «імпэрыялізм», дык я хацеў бы жыць на вуліцы імя такога «імпэрыяліста» ў нашым Менску.

Пішучы «Архіпэляг ГУЛАГ», ён у 4-м томе выказаў зьдзіўленьне: сярод тысяч допісаў, якія ён атрымаў ад колішніх ахвяраў сталінскага генацыду, вельмі маленькім струменьчыкам ішлі лісты ад «расьсяляненых сялян» — былых гаспадароў зямлі, чый лёс перамалолі жорны раскулачваньняў і калектывізацыі.

Я паспрабую растлумачыць гэта так (на прыкладзе сваіх бацькоў). Былыя кулакі, калі іх вызвалялі, пры вяртаньні на радзіму адчувалі тут сябе чужынцамі. Па-першае, хто мог чакаць іх тут: у пашпартных сталох — з прапіскай, у аддзелах кадраў — з працаўладкаваньнем? Тыя самыя камбедаўскія «салаўі», якія іх «кулачылі»? Ці «салаўяты», выхаваныя на «Трэцім пакаленьні» Кузьмы Чорнага, на «Канцы дружбы» Кандрата Крапівы ды на такім шэдэўры, як «Пагібель воўка» Эдуарда Самуйлёнка? Патаптаўшыся, яны вярталіся назад у сваю высылку, бо там (нічога дзіўнага!) ім пачувалася вальней: ра-бот-ні-кі! А калі высылка табе мілейшая за Бацькаўшчыну, дык пра што ж ты пасьля гэтага напішаш Салжаніцыну?

Так і ня трапіла да яго гісторыя пра нашу Гаінскую Дозаўку, дзе ад прывезеных на барках дзьвюх з паловай тысяч беларускіх ды ўкраінскіх сем'яў засталіся толькі апусьцелыя, узьведзеныя імі, новыя баракі ды дамы, ды могілкі на два гектары...

Тут былі Хатынь і Курапаты. Кожны нешта чуў і нешта ведае пра іх. Пра тое, як сярод тайгі 100-сільным ЧТЗ (ды з-за чаго, дзеля чаго!) раўнялі тыя дозаўскія могілкі — у кнізе «Спэцперасяленцы» Эдуарда Касьпяровіча. На ўсесаюзным конкурсе дакумэнтальных твораў пра ахвяры сталінскага генацыду яна была адзначаная дыплёмам, аўтар атрымаў другую прэмію. У нас яна — не зацікавіла нікога. Ніводнай рэцэнзіі. А кніга выйшла ў выдавецтве «Беларусь», у 91-м. Перад тым часопіс «Нёман» друкаваў яе. Ніхто не адгукнуўся ані словам. Друкавалася яна адначасова й на поўначы газэтай «Ленин туй вылэт» (Комі-пярмяцкая акруга). Пермская «Звезда» дала рэцэнзію, а потым аж дзьве паласы водгукаў, сярод якіх мяне найбольш уразілі ўспаміны комі-пермякоў — пра тое, як іх намі страшылі, і як па-людзку мы зжыліся зь імі.

Чамусьці мне здаецца, што калі б «Аблаву» напісаў не Васіль Быкаў, пра яе — у нас — таксама ці не прамаўчалі б...

Мой унук прынес нядаўна «пяць» за сачыненьне па раману Кузьмы Чорнага: Міхал Тварыцкі, Зося, Толік Скуратовіч... Я ня мог яго павіншаваць — мне было горка.

Спадзяюся, што мае малодшыя ўнукі будуць вывучаць той час па іншых творах — перш за ўсё па быкаўскіх аповесьцях «Аблава», «Знак бяды»... Хай іхнюю сьвядомасьць змалку асталюе быкаўскі маральны клімат, а тады ўжо — хай «праходзяць» Кузьму Чорнага, Кандрата Крапіву (каб ведаць, як таталітарная сыстэма дэфармуе таленты).

Адно баюся — каб не зачапіла іх раздрайная дурнота некаторых нашых сёньняшніх газэт, жырыноўшчына, настоеная на кроплях папулісцкай праўды ў брудных цэбрах маны.

Бяру «Рэспубліку» за 26 кастрычніка. Эпіграф беларускі, назва беларуская, далей усё па-жырыноўску, пачынаючы з анонсаў: «Порядок выдачи лицензий», «Александр Солженицын против Алеся Адамовича», «Мама с папой чистят... пулемет». Кантэкст ашаламляльна-ачмуральны: мама з татам чысьцяць кулямёт, каб разам з Аляксандрам Салжаніцыным адстрэльваць, па ліцэнзіі, Алеся Адамовіча?...

Углядзьцеся спачатку ў гэтую фатаграфію. На ёй ні Салжаніцын не зьбіраецца страляць у Адамовіча, ні Адамовіч у свайго куміра Салжаніцына. Здымаў іх Быкаў у Маскве ў сваім гасьцінічным пакоі.



Калі Салжаніцын вернецца ў Расею, яны, мабыць, зноў сустрэнуцца, як некалі. І Адамовіч з Быкавым пацісnуць Салжаніцыну руку, якая ў дэпартамэнце Вандэя ўсклала кветкі да мэмарыялу ахвярам якабінска-бальшавіцкага тэрору ў Францыі пазамінулага стагодзьдзя. Салжаніцын з Адамовічам і Быкавым без «пулемета» разьбяруцца ў тым, што меў на ўвазе Адамовіч пад назовам «беларуская камуністычная Вандэя» ў 1988 годзе, калі тая загадала генэралу Піскарову на Маскоўскіх могілках і ў Курапатах лупцаваць людзей дубінкамі, душыць «черемухой», кідаць іх у міліцэйскія машыны, — каб ня даць правесьці мірны мітынг памяці ахвяраў сталінскага генацыду. Я.Росьцікаў, які ў «Рэспубліцы» атэставаны палітычным аглядальнікам, прыгадвае пра тое з гэткім гумарком (цытую): «После той легкой потасовки, во время которой даже кого-то ударили дубинкой, а двух-трех с «ветерком» прокатили в милицейском газике»... Кашчунны тон. Кашчунная пазыцыя. Ён нібы ня ведае, што на расстрэлы ў Курапаты вязьняў адпраўлялі ў даваенных міліцэйскіх «газіках» — таксама «с ветерком». Вандэяй быў увесь СССР, і ў кожных Курапатах карнікамі кіраваў савецкі Расіньёль — нашчадак генэрала якабінскай арміі ў Вандэі. «Расіньёль» па-беларуску — «салавей». Іронія гісторыі: на Беларусі Расіньёлі-Салаўі вядуць свой радавод ад рудабельца Аляксандра Салаўя, які душыў сялянскія паўстаньні і на Беларусі, і на Пскоўшчыне, і на Чарнігаўшчыне.

Памятаю ў «Новом Мире» два гады назад артыкул Салжаніцына — палеміку з Андрэем Сахаравым. Дзякуй Богу, «Рэспубліка» тады яшчэ ня мела сёньняшняга гарту, не адважылася выдаць фэльетонны водгук: «Солженицын против Сахарова». Во павесялілася б!

Росьцікаў нібы ня ведае, як апынуўся Адамовіч у Маскве. «Уехавший в Москву, чтобы возглавить некое НИИ кино».

Адамовіч ехаў не ў кіно. Ён вёз да Гарбачова праўду пра Чарнобыль, і тады яму на Беларусі былі створаныя такія ўмовы, што ён мусіў выехаць адсюль — туды. У дзень свайго ад'езду ён пакінуў мне аўтограф: «Мы яшчэ вернемся і, думаю, што нешта зробім, каб і дома было чым дыхаць».

Ехаў ён на пяць гадоў.

Мінула пяць гадоў.

Не разьлічыў?..

Каб вам ня страціць раўнавагу розуму, мабілізуйце ўсе свае запасы гумару: праз пяць гадоў пасьля Чарнобыля «Рэспубліка» раскрывае палітычную падкладку тае трагедыі, і выяўляецца, што гэта не аварыя, а загадзя разьлічаная акцыя, задуманая імпэрыялістамі як «мощный отвлекающий маневр». Той самы Росьцікаў даводзіць у леташняй «Рэспубліцы» за 18 верасьня: «Генсек партии вместе с примкнувшими к нему «прорабами перестройки» вольно или невольно уже и так вовсю работали на западную идею уничтожения страны. Чернобыль был первым камнем, сдвинув который, процесс пошел без остановки».

Вось цяпер усё сыходзіцца: пісьменьнік Адамовіч ці ня быў агентам Гарбачова па Чарнобылю, дык ад каго ж было чакаць генсеку першых зьвестак пра наступствы выбуху?.. Размалявалі Адамовіча пад нейкага злавеснага разбойніка, якому хочацца заліць крывёй увесь былы СССР, і перш за ўсё — былую Рудабельскую БССР. Пабойцеся Бога, камбедаўцы!

Вы забываецеся нават, у якой краіне жывяце, што СССР ужо няма. Спасылаюся на ваш нумар ад 16 лістапада. Ваш той самы штатны супрацоўнік, не зважаючы на тое, што Расея сёньня — незалежная ад Рудабелкі, пачынае дыктаваць Маскве, які парадак трэба ўсталяваць на Краснай Плошчы: не чапаць у маўзалеі цела Леніна, пакінуць могілкі, захоўваць калюмбарый у нішах крамлёўскіх сьцен, бо: «расправившись с покойником, мы в одночасье превратим его...» Хто — «мы»?.. Дай вам Бог разабрацца, як завецца ў Менску плошча каля Дому ўраду: плошча Леніна (паводле надпісу ў мэтро) ці плошча Незалежнасьці (як абвяшчае ў электрычцы радыё)? Мо — плошча незалежнасьці ад Леніна? Альбо наадварот: імя ягонай незалежнасьці ад плошчы Незалежнасьці?

Паховіны нябожчыка ў зямлю Росьцікаў блытае з «глумленьем над покойником». Бяз могілак на Краснай Плошчы яму нібыта клінам сьвет сышоўся: «Придут ли на площадь веселье и праздник, если убрать расположенные там могилы?»... Што тут скажаш?

За савецкім часам, памятаю, нехта выпусьціў у нас такую эпіграму:

Рудабелкі, ёлкі-палкі,
Рудабелкі, лес густой,
Быў вясковаю я малпай,
Стаў я малпай гарадзкой!

А вось якую «жырунду» падкінула нам іранічная сумбурнасьць сёньняшняга часу. Калі сьвет спраўляў 75-годзьдзе Салжаніцына, у тыя ж дні ў «ЛіМе» адзначалася 75-годзьдзе іншага славутага пісьменьніка, мо нават яшчэ больш вядомага за Салжаніцына: «Міне нейкі час — прыйдуць новыя альбо абудзяцца вопытныя ўжо дасьледчыкі, цьвяроза ўсё пераасэнсуюць... Які спрэчны й цяжкі ні быў савецкі пэрыяд... ды ўсё ж найбольш яркае напісана тут». (Чытай: Купала з Коласам у да-савецкіх творах нічога «яркага» не далі, пра Багдановіча ды Багушэвіча наогул лепш не ўспамінаць?). Далей — пра юбіляра: «Лепшыя нашы майстры, як той Антэй, маглі лепей адчуваць моц і сокі роднай зямлі, радасьць, боль і клопаты роднага люду». («Лепей» — за каго?)...

Сёньня ня ўсе ўжо памятаюць, што савецкімі Антэямі назваў бальшавікоў — таварыш Сталін у «Пытаньнях ленінізму». Тэарэтычная сумбурнасьць перасунутай са сталінскіх часоў «антэеўскай» мэтафары — гэта просты працяг вядомых нам нязьдзейсьненых практычных намаганьняў яе «перасоўшчыкаў». Прыхільнікі ды пасьлядоўнікі таго літаратурна-бальшавіцкага «Антэя» — Кастуся Кірэенкі — гады са тры назад паспрабавалі ўвекавечыць ягонае імя ў найменьні нейкай вуліцы ў сталіцы Беларусі. Перашкодзіла «Народная Газэта», даўшы калектыўны ліст 17-ці пісьменьнікаў пад назваю «Не па заслугах» (18.04.91). «Кожны з нас хацеў бы жыць на вуліцах, якім нададзеныя імёны народных песьняроў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Скарыны, Багдановіча... А хто такі Кірэенка — хто ўспомніць праз якія пяць гадоў?»

Мінула — тры. Успомнілі.

Калі б «антэеву» паэзію падсунуць сёньня Жырыноўскаму, той, мабыць, кінуў бы ўсе мовы, на якіх дагэтуль спрабаваў размаўляць, і перайшоў бы на «антэеву», — бо наш «Антэй», як выяўляецца, пісаў — «пад Жырыноўскага»: «Рукі мільёнаў — ад Конга да Віслы — / Жадаюць руку маю шчыра паціснуць», «І вусны мільёнаў — ад Конга да Влтавы — / пры стрэчы са мною жадаюць мне славы», «І нават той, хто ад нашага слова / Шалёнаю злосьцю застогне нанова, / Чаго б ні жадаў ён Савецкай Радзіме, / Усё ж капялюш прада мною свой скіне».

Жырунда?

«Антэй» — ні даць, ні ўзяць — экс-чэмпіён сусьветна-жырыноўскай сьціпласьці. На розных Салжаніцыных ён пазіраў — як Ленін на капіталізм. Яму аж зубы зводзіла, калі якога дысыдэнта — літаратара з СССР прымаў амэрыканскі прэзыдэнт. Кірэенка рэагаваў у сваім «Полымі», дзе тады гаспадарыў, як хацеў — «Пісьмом містэру Картэру», якое нарабіла немалога вэрхалу ў ЦК, бо спахапіліся, што Картэр мог падняць «антэеву» пальчатку, і тады — мяркуйце самі, як было б даваць адбой: «... чым прымаць у Беладомнай зале / Якога-небудзь падонка, што зарабляе хлусьнёй медзякі, / узялі б Вы, лепш, містэр Картэр, сваю місіс Разалію / І прыехалі б да маёй сям'і ў госьці — / На хоць два ці тры дзянькі».

Відаць, не пераклалі Картэру «антэеў» ліст. Твор — неперакладны, не па зубох тамтэйшым перакладчыкам? Адметны рытм і адмысловая рыфмоўка... Але самае галоўнае — «антэеў» рост! Вышэй за прэзыдэнтаў, не раўнуючы да нейкіх там «падонкаў» — дысыдэнтаў.

Сёньняшнія рудабельцы ад літаратуры ажно крэкчуць, падганяючы пад гонкі бальшавіцкі рост свайго «Антэя» — свае «росьцікі».

«Росьцікавым» — не патрэбны Салжаніцын (а калі патрэбны, дык хіба дзеля таго, каб «стрэльнуць» Салжаніцыным у Адамовіча, — паклікаўшы на дапамогу тату з мамай).

«Росьцікавы» — зноў бяруць рэванш.

Што зробіш: больш за сем дзесяцігодзьдзяў у камуністычных інкубатарах культываваўся пераважна «росьцікаўскі» (у расейскім варыянце — «шарыкаўскі») гэ-на-тып...

# ВІЛЕНСКІЯ ЭЛЕГІІ

К.І. Галчынскі

Тонуць у весьнім дажджы мерныя тахты верша,
ды суціхае дождж, гучаць толькі струны рытму —
формы капелюшоў, крокі прэлатаў на бруку
зноў пераносяць мяне, бы ў сёньняшнім сьне, да Рыму.

Шкода, бракуе форсы на вояж да Ватыкану.
Зноў трэснула люстра дажджу, хвошча з гатыцкіх рынаў.
Хмары бягуць угары, як цягнікі са зброяй.
Калі б з MSZ не сыйшоў, консулам быў бы ў Рыме.

На Вастрабрамскай 9 месьціцца Клюб Дыскутантаў,
іхнія прозьвішчы: Marks, Sorel, Vilfredo Pareto...
Гром абрынаю на Клюб, пытаецца Клюб: — Чаго хочаш,
хмараў галяндзкіх стод, нічога няварты паэта?

Ля Штраля (vis-à-vis Пошты) сыходзіцца прафэсура:
Дэмбінскі, Іво Яворскі, Манфрэд Крыдль, Срэбны атэнін;
І над сталом струхлелым, над дрогкай паўчорнай шклянкай
з «Фаўста» рушаць цытаты, як Штурмавыя Аддзелы.

Ля Базылікі тлум. Дзынькаюць шпоры маёраў.
Вулічныя кабольды ў сподках нясуць пралескі:
— Пан, усяго пяць грошаў букецік пралескаў каштуе...
Сьвежыя... Толькі зь лесу... купі, пан! Купі, пан! Купі, пан!

О, таямнічая Вільня! Аранжавая ў зеляніне!
Увечары асабліва, калі, бы ў бутэльцы ад піва,
сядзіш між муроў барока, а ў іх бы ў празрыстых шафах
здрадлівыя кандэлябры, баляды, водары скону...

Назвы мастоў: Зьверынецкі, Зялёны, адкуль магік Боска
навідавоку ўзьнёсься ў паўночнай імглы настальгічнасьць.
І над Вялейкай масткі з ларэнчамі ў форме трытонаў —
скокнуць зь іх у ваду — гэта адна рамантычнасьць.

З вуліцы Мыльнай жыды, з Падвойнай, Шкляной, Гаона,
з РАМОНТУ ЛЯЛЕК жывуць і з ЗАЛІВАНЬНЯ ГАЛЁШАЎ,
вокам пачырванелым шукаюць знакаў на хмарах,
смажаць цыбулю й вераць у прышэсьце Гога-Магога.

Вымеці, служка, пакой! Ужо мая пані блізка!
Пыл з вазонаў сатры. Стужак дадай да гітары.
Гура! самалёт над местам, а ў самалёце Натальля.
О, расьсьвяці, Натальля, жыцьця майго прыцемак шары!

1935

Пераклаў з польскай Алег Мінкін

*Малюнак Дзяніса Раманюка*



# Дзівосная тэорыя Прэнцыка-шаўца

*Віленскае апавяданьне*

Аўром Карпіновіч

Прэнцык-шавец меў звычку спаць у адзежы. Адробіць увесь дзень, і адразу ад варштату — у ложак, і шапкі з галавы ня здыме, нават малатка ня выйме з кішэні. Прэнцык трымаўся думкі, што распранацца няма патрэбы — не пасьпееш легчы, як ужо і ўставаць трэба. А як няма дзеля каго распранацца, дык і ў адзежы добра спаць. А быў Прэнцык бабылём.

Аднак ня можа быць чалавек зусім адзін, трэба зь некім вадзіць кампанію, хоць бы й з мухай. Прэнцыкавым захапленьнем былі жывёлы. І не таму, каб толькі самоту адагнаць, але дзеля пацьверджаньня навуковай тэорыі, якою ён меўся страсянуць увесь сьвет. Заклаў ён у панадворку за хатай, што на Мала-Стэфанскай вуліцы, побач з карчмою Цырылеса — заалягічны садок. Вычысьціў панадворак, павырываў крапіву, паставіў клеткі й насаджаў туды розных жывёлаў, пачвараў і дзівосаў.

І розуму не дабраць, адкуль той Прэнцык іх нацягаў, калі ў Вільні й верабей заціўкае — здаецца бы канарык сьпявае, а кожны кот аж лопаецца ад фанабэрыі. Казалі, што Прэнцыкава зьверына не адсюль, а зь нейкіх далёкіх краёў. Настаўнік Гілігіч з рэальнай гімназіі зайшоў аднойчы да Прэнцыка ў ягоны прыватны зьвярынец і быў так уражаны небывалымі істотамі, што яму падняліся плечы й ён ня мог іх апусьціць.

Добрую гадзіну настаўнік Гілігіч сядзеў у шкарпэтках, а Прэнцык «на пачаканьне» прабіваў абцасы й рубчыкі на ягоныя чаравікі. Тым часам яны разважалі над заалягічнымі праблемамі, што Прэнцык надзвычай любіў. Разам з трыманымі ў роце цьвікамі зь ягоных вуснаў выляталі паасобныя кавалкі тэорыі аднаго прафэсара Мічурына, які ў Савецкім Саюзе прышчапіў бульбу да буракоў і яблыкі да вішань, і гэтае спароўваньне дало надзвычайныя вынікі. Пра гэта Прэнцык прачытаў у «Вечаровым Кур'еры». Колькі Гілігіч ні спрабаваў вытлумачыць шаўцу, што батаніка гэта не заалёгія, той і слухаць не хацеў.

Прэнцык пярэчыў, цьвердзячы, што зробіць з сваіх жывёлаў людзей. Гэта запатрабуе часу, і шмат часу. Ён іх перавыхавае, з чорнага зробіць белае.

Тымчасам Прэнцыкаў двор кішэў рознымі стварэньнямі, істотамі з вострымі дзюбамі й тырчастымі бы кіяхі хвастамі. Было там і колькі птушак зыркіх колераў, яны выдзіралі адна адной пукі пер'я, дзяўбліся да крыві блішчастымі насамі. Праз увесь дзень у двары стаяў вэрхал, шум, сык і шып. Пачвары шчэрылі зубы, пільнуючы ахвяраў.

За жывёлаў Прэнцык плаціў падэшвамі. Іх прыносіў вартаўнік заалягічнага саду на рагу Завальнай, а за гэта цэлы год хадзіў у цэлых чаравіках. І ён, і ягоная сям'я. Сад у Вільні быў вельмі бедны, ніякіх сямёх цудаў сьвету ў ім не было. Галоўнымі экспанатамі былі зачуханыя ваўкі жабрацкага выгляду, пара выдраў і мокры пэлікан. Праўда, горад зьбіраўся збудаваць сапраўдны заасад на Антокалі, у лесе над Вяльлёй. А тымчасам гэты сад быў караблём без стырна — усім запраўляў вартаўнік, які рабіў што хацеў. Калі хто зь віленскіх паноў прывозіў саду якія падарункі, дык усё трапляла да Прэнцыка, а гой-фундатар атрымваў простае тлумачэньне: жывёліна здохла. Так Прэнцык усім на дзіва выгадаваў цэлую парафію пачвараў — цяжарным жанчынам туды й заглядаць не дазвалялася.

Нашто спатрэбіўся Прэнцыку ўвесь гэты клопат? Чаго ён хацеў дамагчыся? А хацеў ён давесьці ўсёй Вільні, што гэтак можна палепшыць сьвет — сам Бог будзе вочы церці. Прэнцык цьвердзіў, што калі б Творца трохі больш дбаў пра свае стварэньні, то выходзілі б жывёлы проста лялькі. Вось жа хоць бы яго, Прэнцыка, зрабіў крыху больш старанна, а ня так, як ёсьць: адно вока бліжэйшае да вуха, чымся да носа. Якраз дзеля гэтае заганы, калі не казаць пра астатнія, уцякла ягоная нявеста Фаня — сярод ночы ў Афрыку з вайсковым краўцом.

Вільня памятае, як перамяніўся Прэнцык з тае пары. Ён перастаў бываць на цэхавых сходах, браць чарку ў карчме Іцкі Жоўтага. І пачаў класьціся спаць у вопратцы. Усю горыч сваю гаіў Прэнцык сваім зьвярынцам. Ён хадзіў зь мехам па ятках ды па рэзьніках і зьбіраў косткі й розныя абрэзкі ды адпадкі. Не абмінаў і пякарню. З галадоўкі ягоныя жывёлы грызьлі стары хлеб, ня грэбавалі й сухарамі. Кожнае нядзелі ўранку Прэнцык знаходзіў каля свайго двара цэлую кучу з рэштаў старых чобатаў з Мала-Стэфанскай вуліцы. Спачуваючы нягодам бедных стварэньняў, людзі гэткім чынам дапамагалі Прэнцыкавым вязьням. Суседзі ня раз прыходзілі да яго, па-добраму ўпрошваючы выпусьціць на волю ўсю зьверыну, але Прэнцык не хацеў пра гэта й чуць. Звычайна ён пачынаў доўга тлумачыць ім сэнс сваёй заалёгіі. Ён мусіць дабіцца посьпеху, цярплівасьцю ён пераробіць прыроду. Вось што ён прачытаў у газэце пра аднаго й г.д.

*Працяг на старонцы 14*

# Дасканалыя Моманты Рэчаіснасьці

Севярын Квяткоўскі

*СУПЛЁТ*

*Сёлета — сем гадоў, як памёр Борхес.*
*Я нарадзіўся ў 1973-м, ён памёр у 1986-м.*
*Трынаццаць гадоў мы жылі разам:*
*Я — немаўля, ён — старац.*
*Я спасьцігаў сьвет, ён — таксама.*
*Мы жылі свае жыцьці.*
*Я й цяпер жыву яго — сваё жыцьцё.*
*У ім ёсьць Борхес.*
*У ягоным мяне не было.*
*Не было? Не! Ён мяне прадбачыў.*
*Я дакрануўся да Борхеса проста:*
*разумныя дзядзькі з выдавецтва «Прогресс»*
*надрукавалі Борхеса на даступнай мне мове.*
*Як увайшоў у іхняе жыцьцё Борхес?*
*Можа, ягонае бачаньне сьвету было*
*блізкае іхняму?*
*А можа яны былі проста*
*«разумныя дзядзькі», якія рупіліся*
*пра адукацыю расейскамоўных чытачоў,*
*і меркавалі, што «і Борхеса трэба ведаць»?*
*Гэтага я не даведаюся.*
*Але Борхес мяне не «адукоўваў».*
*Мы размаўлялі зь ім. Па-сяброўску.*
*Борхес перадаў мне*
*Дасканалыя Моманты Рэчаіснасьці,*
*якія расчыніліся яму.*
*Я расчыніў свае Дасканалыя Моманты —*
*для іншых.*
*Так, год за годам, людзі чыняць суплёт*
*Дасканалыя Моманты Рэчаіснасьці.*
*Суплёт, які завецца Культурай...*
*Ці проста? — Жыцьцём.*

Х.Л.Борхес напісаў у прадмове да зборніка «Сад сьцяжынак, што разыходзяцца»: «Недарэчнаю й марнатраўнаю ёсьць карпатлівая праца па стварэньню пульхных тамоў, праца па расьцягваньню на пяцьсот старонак ідэяў, якія з посьпехам можна выкласьці ў двух словах у лічаныя хвіліны. Больш разумна ўявіць сабе, што гэтыя кнігі ўжо йснуюць, і даць іхняе рэзюмэ, кароткі выклад».

Асьветлены гэтай Борхесавай думкай, я зірнуў на клясычную прозу XIX-га стагодзьдзя й зразумеў, чаму мне цяжкавата чытаць яе. Тут і ідэі клясычныя, і мова выкшталцоная, але... Возьмем, да прыкладу, «Вайну й мір» Л.М.Талстога. Асноўную ідэю рамана (альбо некалькі ідэяў) сапраўды можна выкласьці на некалькіх старонках. Між тым, перад намі іх 00Х.

У чым справа? Вы заўважылі, якія фільмы атрымліваюцца паводле літаратурнай клясыкі XIX-га стагодзьдзя? Цудоўныя інСЦЭНіроўкі! А вы можаце ўявіць сабе інСЦЭНіроўку паводле Борхеса? Я бачыў адну: дыплёмны фільм ці то С.Салаўёва, ці то М.Міхалкова «Сад сьцяжынак, што разыходзяцца». Там былі файныя здымкі, але — кожны кадар паасобку. Проста сэрыя файных чорна-белых фотаздымкаў, фільма не было.

Борхес можа натхніць, даць пэрсанажаў, астатняе — творчасьць рэжысэра. (Чаго не было ў згаданым дыплёмным фільме. Бо там рэжысэр інСЦЭНіраваў Борхеса.) Паводле Борхеса напэўна мог бы зьняць фільм Таркоўскі. Што менавіта ў «Пікніку на ўзбочыне» натхніла яго, мы ня ведаем. Але ёсьць фільм («Сталкер»), дзе ў Стругацкіх узятая вонкавая сюжэтная лінія, а 99% фільму — творчасьць Таркоўскага (Стругацкім гэта не нашкодзіла, бо «лінія сюжэту» ў іх — асноўнае).

Іншая справа — «Вайна й мір». Талстой зрабіў 00Х старонак тэксту ня толькі для таго, каб данесьці да нас свае ідэі. Ён АПІСАЎ нам шмат чаго: ад краявідаў да характараў людзей. Гэтае АПІСАЎ і ёсьць «разынка» літаратурнай чыннасьці Талстога. Ягоны раман — гэта ў вялікай ступені кадры фільма, відарысы, закадаваныя літарамі. Творчасьць рэжысэраў, якія здымалі «Вайну й мір» адрозьніваецца ад творчасьці Таркоўскага, які здымаў «Сталкер», гэтак, як творчасьць перакладчыка ад творчасьці паэта. Натуральна, паводле Талстога можна здымаць фільмы так, як здымаўся «Сталкер». Альбо так, як можна зьняць паводле Борхеса (яшчэ раз — не інСЦЭНіраваць). Але тады гэта ня будзе ўжо Талстой. А вось Борхес у любым выпадку застанецца Борхесам.

* * *

Беручыся чытаць Талстога (Дастаеўскага, Гюго, Лермантава, Бальзака...), мы становімся на месцы герояў, і адпраўляемся ў іхняе падарожжа (іншым разам — разумовае, як у «Запісках з падпольля» Дастаеўскага). Чытаючы Сартра, мы выкарыстоўваем падарожжы ягоных герояў для таго, каб зірнуць на сябе. Чытаючы Борхеса, мы нікуды не адпраўляемся, мы застаемся на месцы, мы размаўляем з Борхесам. Борхес перадае нам убачаны ім Дасканалы Момант.

Што такое ДМ? Абстрактнае мастацтва ёсьць найяскравейшым прыкладам выяў-

# Дзівосная тэорыя Прэнцыка-шаўца

*Працяг са старонкі 13*

Прэнцык гаварыў, а ўсе навокал качалі галовамі і ўрэшце ціха разыходзіліся, як пасьля адведак цяжка хворага.

З усіх заалягічных экспэрымэнтаў Прэнцыку ўдаўся толькі адзін. У двары ягоным жыў кудлаты беспародны сабака. Прэнцык паставіў сабе мэту навучыць яго паводзіць сябе, як чалавек. Доўга ён катаваў і страшыў сабаку, калі той задзіраў нагу ля слупа, і вось цяпер, калі надыходзіла патрэба, зьвер уставаў на заднія лапы, абапіраючыся на сьцяну карчмы Цырыліса, зусім як чалавек. Дзівіцца на гэта прыходзіла ўся Мала-Стэфанская вуліца. З тае пары Прэнцыка пакінулі ў спакоі — хай сабе робіць што хоча.

Настаўнік Гілігіч, зайшоўшы неяк да шаўца з парай даччыных чаравікаў, сказаў:

— Прэнцык, але ж жывёла гэта ня бульба. Мічурынскі мэтад нельга стасаваць да заалёгіі. Да таго ж, гэты Мічурын маніць. Зь ягоных экспэрымэнтаў выйдзе пшык.

Прэнцык, заганяючы драўляныя цьвічкі ў высокія абцасы дзявочых чаравікаў, бурчэў:

— Вось пабачыце, што я зь іх зраблю. Я ўжо вымуштраваў іх, каб елі прыстойна. Другое пакаленьне будзе ўжо іншае, будзе мяккае, як шоўк.

Настаўнік Гілігіч, ня могучы стрымацца, выкрыкнуў:

— Але ж ёсьць законы!

Прэнцыка гэты выбух ня ўразіў.

— Якія там законы?

— Законы прыроды!

Шавец узьняў вока, што было бліжэй да вуха, і прыбіў настаўніка пытаньнем:

— Што ж, цяпер гэтую прыроду й чапаць няможна?

* * *

Тое, што прыроду няможна чапаць, па-свойму выказваў Бязног, гандляр птушкамі й залатымі рыбкамі, што меў крамку на Шпітальнай. Прэнцык меў звычай па пятніцах, вяртаючыся з Тышкевічавай лазьні, заходзіць да Бязнога пагаварыць пра заалёгію.

Бязног езьдзіў па сваёй крамцы ў калясцы на двух нікеляваных колцах. Ногі ў яго былі абрэзаныя па самы жывот, і ён саромеўся паказвацца на людзях. Неяк Прэнцык пасадзіў яго на кавалак хромавай скуры й абвёў навокал крэйдай, пасьля ўзяў добрую льняную кашулю, падшыў да яе выразанае з скуры дно, і Бязног атрымаў убраньне — насіць і насіць. Пасьля таго, як Прэнцык спакаваў Бязнога ў ільняны мех з скураным дном, староньняму воку выгляд Бязнога ўжо не здаваўся такі страшны. Так яны сталі добрымі сябрамі.

Бязногава крамка была поўная птушак у клетках і рыбак у слоіках. У вакне стаяў вялізны акварыюм. Там рыбам было лепш, яны маглі распрастаць свае плаўнікі. Дзеці з вуліцы днямі глядзелі, прыплюснуўшы насы на шыбах, на ўсе штукарствы каляровых рыбак як яны танчылі ў вадзе й ганяліся адна за адной узад і ўперад.

Пятніца папалудні. Пакупнікоў у крамцы няма. Нават птушкі ў клетках рыхтуюцца да шабасу



леньня і ўвасабленьня пэўных ДМ. Адрозьненьне апавяданьняў Борхеса ад чыстага абстракцыянізму ў тым, што ён перадае нам ДМ-ты з свайго сьветаўспрынятага, выкарыстоўваючы для гэтага апавядальнасьць. І слушна робіць, інакш ДМ, перададзены нам, напрыклад, праз апавяданьне «Ружа Парацэльса» зьнік бы, і ўсё ператварылася б у інфармацыйны радок: «Парацэльс жадаў ад людзей толькі аднаго — веры ў яго». Такім чынам, апавядальнасьць Борхеса — толькі сродак, безь якога, на жаль, нельга абыйсьціся. «На жаль» — для самога Борхеса. Бо, калі б было магчыма, Борхес напісаў бы толькі адно слова, якое перадало б нам УСЯГО Борхеса (апавяданьне «Ундр»).

Магчыма, падсьвядома Талстому хацелася таго самага. Але ён, бадай, настолькі верыў у сябе, што паспрабаваў расьцягнуць Дасканалы-Момант-свайго-сусьвету на 00Х старонак.

Рэч ня ў тым, кепска гэта ці добра. Рэч у тым, што гэтыя 00Х старонак зьнівэлявалі дасканаласьць: Дасканалы-Момант-Рэчаіснасьці-Льва-Мікалаевіча-Талстога. Энэргія пайшла на спробу нараджэньня новых людзей: выпісваньне іхніх вачэй, вопраткі, думак, рухаў і г. д. А на паперы нарадзіліся прывіды. Бо немагчыма аднаму чалавеку цалкам перадаць на паперы нават самога сябе, а тым больш стварыць новых людзей. (Да таго ж людзі — як тыя «ўжо напісаныя кнігі», дастаткова некалькіх радкоў, каб чытач зразумеў, пра каго йдзе гаворка). Сартр нам паведамляе — чалавека звалі J, ён зрабіў тое й тое, гэта мела вынікам тое й тое (плюс сьцісла пра рэчавае атачэньне), усё астатняе ў эфэкце чытаньня Сартра — справа творчасьці самога Чытача.

Яшчэ больш выразна гэта ў Борхеса.

Мне могуць запярэчыць: «Але ж чытаючы Талстога, мы таксама сваёй творчасьцю ў думках дастваraem да пэўнага чалавечага стану тых апісаных людзей, якіх вы называеце прывідамі».

Вядома, вядома... Але, думаю, Леў Мікалаевіч такой мэты ня ставіў і быў бы не задаволены ўсялякімі адступленьнямі ад тэксту. Ён жа стараўся, ствараў, душу сваю ўкладаў. А раптам вашая сутворчасьць дасьць нешта іншароднае зробленаму вобразу?! (І стварылі ж урэшце: «Едут поручик Ржевский и Наташа Ростова в одном купе...» Ну як пасьля такіх показак дзеці будуць чытаць «Вайну й мір»?) Як у кожнай апісальнай літаратуры, вы мусіце прыняць тое, што акрэсьлена аўтарам. Вашая творчасьць выяўляецца толькі ў тым, што вы ставіце сябе на месца галоўнага героя. «Што кепскага, — скажуць мне, — у тым, што хтосьці па-майстэрску апісвае падарожжы, а хтосьці ў іх адпраўляецца?» Нічога. Я таксама люблю адпраўляцца ў падарожжы. Толькі не ў «сур'ёзныя» і «сапраўдныя», а ў гумарыстычныя (шызовыя, авантурныя і г. д.) і гратэскавыя. На тое яно й НАПІСАНАЕ падарожжа, сапраўды немагчымае ў жыцьці.

Тут жа могуць зазначыць, што ў XIX ст. ёсьць творы гратэскныя, «несур'ёзныя». Я магу адказаць пра тыповасьць-нетыповасьць у літаратурах...

А можа ўсё прасьцей? Калі параўноўваць творчасьць Талстога з жывапісам, узгадваюцца імёны Шышкіна, Рэпіна, Васьняцова. Цудоўныя мастакі, але іхнюю творчасьць я бяру адно да ведама. Наскальныя рыты даінскіх цывілізацыяў і карціны Малевіча мне падабаюцца больш.



— чысьцяць пёркі, абтрэсваюцца ад пылу. Гэткай часінай сядзяць абодва сябры, адзін у калясцы, другі на зэдліку, і Бязнога кажа Прэнцыку:

— Настаўнік Гілігіч ведае. У яго добрая галава. Вось, прыкладам, ён сказаў мне, што ёсьць два гатункі чыжыкаў — гэта мне проста вочы раскрыла. Дзе табе зь ім спрачацца! Што ён кажа — то сьвятая праўда. У заалёгіі ніякіх хвокусаў няма. Кожная птушка па-свойму скача. Ды што там, вось я табе прыклад дам, што такое заалёгія. Вось карова з казою разам ідуць на поле, абедзьве зялёную траўку скубуць. Во як, га? А як дадому вяртаюцца — дык карова так і кладзе ўсё на дарогу, не сыходзячы ўбок. А каза тут бубку кіне, там другую — і ўсё чыста, нічога не відаць. І настаўнік Гілігіч гэтак кажа. Кожнаму свая дарога.

Прэнцык не здаваўся:

— А мой сабака?

— Цябе б гэтак кармілі, і ты б на сьцены дзерся...

* * *

Вось гэтак ішоў Прэнцык ад Бязнога ў самы шабас. На Шпітальнай усе крамы былі зачыненыя, нават дзьверы жыдоўскага шпіталю былі замкнутыя. Дробны дождж праводзіў Прэнцыка дахаты, на вуліцы ўжо добра сьцямнела, дзенідзе праз шчыліны аканіцаў мігцелі шабасовыя сьвечкі. Скурчыўшыся пад настаўленым каўнярам, з жмутом бруднае бялізны пад пахай, цягнуўся ён па Шпітальнай вуліцы, і кожная кропля дажджу, што падала яму на твар, зьмяншала ягоную веру ў збудаваную на гвалце заалягічную тэорыю. Вось ужо колькі гадоў ён завіхаецца, а тымчасам зь ягонага панадворку ня выйшла ніякага цуду. Можа, таму, што ён спрабаваў усадзіць у адну клетку дзьве зусім розныя істоты, якія, замест кахацца, мераліся паадрываць адна адной галовы.

Мабыць, ня варта было так упарціцца. Думалася Прэнцыку й пра гутарку ў Бязнога. Той гаварыў, а Прэнцык тымчасам назіраў за птушкамі. Якія колеры! Ня тое, што ягоныя страшыдлы. Вось малінаўка, а вось берасьцянка з блакітнай галоўкай. У кутку пры клетцы круціцца шызгарак, на крылах дзьве палоскі — як эпалеты. Канарыкі, жоўтыя, як кветкі макухі. Папугаі, пліскі — усе рухавыя, самавітыя, глядзець любата! Бязног неяк прызнаўся яму, што калі б ня птушкі — наклаў бы на сябе рукі. Сам рухацца ня можа, дык адзіная радасьць — ягоны «тавар».

Прэнцык прыйшоў дахаты, зьеў сваё сьняданьне-абед-вячэру і ўзяўся чытаць «Вечаровы Кур'ер». У пятнічным выданьні заўсёды друкаваліся артыкулы ўсёведнага рэдактара А.-І.Гродзенскага пра апошнія дасягненьні ў навуцы, пададзеныя ў даступнай простаму чытачу форме й прыпраўленыя рэдактаравым камэнтаром. Гэтым разам рэдактар напісаў пра полавае жыцьцё піявак, але сёньня артыкул ня лез у галаву Прэнцыку — ён думаў толькі пра свой правал у заалёгіі. Вось хацеў ён усім давесьці, што можна перавыхаваць жывёлаў, што брыдкае можна зрабіць прыгожым. І ня гэтак пра жывёлаў ён думаў, як пра самога сябе, што зьявіўся на сьвет з пасаджаным не туды вокам, з расьсечанай заячай губою і зь вялікімі, бы хануковыя аладкі, вушамі. Ён хацеў усім даказаць, што пасьля доўгіх спробаў прыйдзе час, і такія, як ён, будуць мець ясны твар з чорнымі вусамі, і будзе ён шпацыраваць у капелюшы па Нямецкай, і дзяўчаты ня будуць ад яго разьбягацца, а кожная захоча зь ім пад вясельны полаг.

Відаць, праўду кажа настаўнік Гілігіч — у прыроды свае законы. І яму, Прэнцыку, дастаўся кепскі закон.

Так да паўночы шкадаваў Прэнцык самога сябе, ня могучы заснуць. Нешта, ён сам не разумеў што, не давала яму спакою. А заўтра ж ён мусіць, да сьвяткаваньня суботы, устаць зь яснай галавою, без заалягічных думак — гэта ён разумеў добра. Калі ж ня ўдасца — мусіць усё гэта проста абсекчы.

Прэнцык кінуў газэту й выйшаў на двор. Вялізны жоўты месяц вісеў у разьвіднелым небе. Падзьмуў халодны ветрык, спадарожнік раньняй восені. Жывёлы ляжалі ў сваіх клетках і спалі нудотным сном вязьняў, што ўжо даўно страцілі сваю волю. Толькі крот, апошні падарунак вартаўніка заасаду, упарта завіхаўся ля кратаў сваёй турмы, спрабуючы зрабіць падкоп.

Прэнцык адну за адной паадчыняў клеткі. Сьпярша заспаныя істоты не разумелі, што навокал робіцца, пасьля, прачухаўшыся, пачалі ўцякаць, як ад пажару. Далёка ўцякаць было ня трэба — прабегшы колькі вуліц, яны траплялі ў Закрэцкі лес. Некаторыя, заблукаўшы, пабеглі ў другі бок, але й гэта не бяды — лес быў і за Антокалем. Вольня мела досыць лясоў для ўсіх норак, куніц ды каго там яшчэ.

За адну хвіліну ад Прэнцыкавага заасаду не засталося ні душы. Толькі зьбянтэжаны крот ня мог зразумець, што робіцца на гэтым сьвеце. Ён закапаўся ў пагорачак побач з сваёй турмою на Мала-Стэфанскай вуліцы. Засталася, праўда, на Прэнцыкавым двары заморская курыца з вальлём да зямлі.

Зрабіўшы ўсё гэта, Прэнцык вярнуўся ў хату, згасіў сьвятло, распрануўся й выцягнуўся на ложку ў адной бялізьне. Даўно ён гэтак ня спаў. Перад тым, як заснуць, Прэнцык прыгадаў, як Бязнога сказаў яму: калі б ня птушкі, наклаў бы на сябе рукі. Вось і яму трэба знайсьці штосьці, каб было ўсьцешна глядзець.

Раніцай Прэнцык апрануў шабасовы строй, загарнуў у «Вечаровы Кур'ер» палову халы й пайшоў — пайшоў праз Нямецкую вуліцу да Катэдральнай пляцу, а адтуль павярнуў у Бэрнардынскі сад. Уся алея да лавы каля ставу ў самым сэрцы вялікага парку была ўсьцеленая каштанавым лісьцем. Цяжкія Прэнцыкавы крокі патаналі ў мяккім залатым дыване, і ўся ягоная істота напаўнялася прыемным і сьветлым пачуцьцём.

У ставе плаваў адзіны віленскі лебедзь. Белы, як вэлюм, ён гожа нахіліў убок галаву, прыглядаючыся, хто гэта частуе яго кавалачкамі халы. Ён далікатна рухаўся на халодным вадзяным люстры, пакуль не падплыў пад самы бераг.

Шавец яшчэ доўга сядзеў на лаве й карміў жывёліну, якую ня трэба было перараблячь, дасканалую да апошняй пярынкі, створаную Богам цярпліва й старанна.

Ён сядзеў і ўсьцяж назіраў за рухамі лебедзя, што падбіраў кавалачкі халы. Нібы белы карабель плаваў лебедзь перад Прэнцыкам, зьвіўшыся зь ягонага сну — сну аб прыгажосьці.

* * *

Прэнцык больш ня спаў у адзежы. Ён зноў пачаў заходзіць да Іцкавай карчмы на кілішак гарэлкі. Ніякіх навуковых артыкулаў ён болей не чытаў.

Пераклаў зь ідыш Віталь Зайка

# Pelecanus onocrotalus

*«Вось сымбаль твой, забыты краю родны!»*

У Новай Зэляндыі прадстаўнікі атраду Pelecaniformes — пэліканы й бакланы, — звычайныя тутэйшыя птушкі, якія жывуць на Поўначы па ўзьбярэжжах акіяну, рэчах і азёраў. А на Беларусі ружовы пэлікан толькі гасьцяваў — залятаў і гнездаваўся пераважна на Поўдні, на Палесьсі і ў Падняпроўі, хоць бачылі яго й на Лепельшчыне да Барысаўшчыне (1864). Адно з браслаўскіх азёраў так і завецца — Пеліканы.

У старажытнасьці першыя хрысьціяне шанавалі гэтую птушку як сымбаль сьвятога прычасьця, бо, паводле паданьняў, пэлікан карміў сваіх птушанятаў уласнай крывёю. У раньнехрысьціянскім жывапісе пэлікана можна бачыць сярод іншых сымбаляў на мурох катакомбаў. Адсюль, напэўна, паходзіць і традыцыйна лагоднае стаўленьне людзей да гэтае птушкі. Тым больш, што мяса пэлікана малаядомае. У мусульманаў есьці яго мяса забаронена. Паводле ісламскага паданьня, пэліканы на загад Бога насілі ў сваіх гарлавых мяхох ваду для будаўніцтва Каабы.

Дзюбы ў пэліканаў, — як вялізны сак, ніжняя частка якога ўтвараецца неаперанным гарлавым мяшком, а верхняя — доўгаю кілепадобнаю дзюбаю з моцным кручком на канцы. Пры дапамозе такой дзюбы пэліканы ловяць рыбу — асноўны свой прадукт харчаваньня, — якую сьпярша закідаюць у паддзюб'е-мяшок, а ўжо потым глытаюць.

Пэлікан — найбуйнейшая вадаплаўная птушка (даўжыня цела 1,5 м, а вага каля 11 кг.). Ружовыя пэліканы маюць бела-ружовую з бурымі пераходамі пад крыламі афарбоўку пер'я. Наддзюб'е шэра-блакітнае з барвовымі плямкамі, а дзюба, як і перапончатыя лапы — жоўта-чырвоная. У ружовых пэліканаў (у адрозьненьне ад кучаравых і шэрых) маецца й плюмаж, які шчацініцца ззаду на галаве даўгаватым завостраным пер'ем.

Пэліканаў бачылі на Беларусі толькі да вайны (у Бабруйску й на Прыпяці). Прычынаю іх зьнікненьня стала бурная гаспадарчая дзейнасьць, праз якую на Беларусі рэзка паменшала рыбы, а таксама — адсутнасьць ахоўнага статусу. Птушка, якая была сымбалем ахвярнага выкупленьня чалавечых грахоў, сама стала ахвяраю чалавечае нядбайнасьці ў нашым краі.

Пэліканы вельмі музычныя й разумныя птушкі. Расказваюць, як аднойчы ў Мазыры ружовы пэлікан прыходзіў на танцпляцоўку паблізу Прыпяці, нібыта ўслухоўваўся ў музыку і пагойдваўся ў тахт рытму. Сьцьвярджаюць, што калі падлеткі памкнуліся яго злавіць, ён нібыта крыкнуў: «Жыве Беларусь!» і ўцёк.

S.H.



# З.К.

Санэт № 21

*Публікуецца на просьбу чытачоў*

Шануем мы цябе, о матухна-прырода,
Імкнемся ўберагчы ад бед і ад нягод:
Атручваем, сячэм, ссушаем з году ў год,
А плён у нас чамусь — няўрод і непагода...

А колькі робім мы дзеля свайго народа:
Разбурваньне старых, ўвядзеньне новых мод,
А родзіцца чамусь маральны паў-урод,
Ды не адзін, ужо іх цэлая парода —

Прыродныя цары, народаў каралі,
Што мараць разараць культурны слой зямлі.
Няўжо экспэрымэнтаў нам яшчэ ня годзе?

Расьліна й чалавек — яны ж адной сям'і
І без жывільнай глебы трацяць карані —
Закон такі адзін ў прыродзе і ў народзе.



# ПОШТА

Шаноўныя сябры!

Хачу, каб ведалі Вы пра тое, якой крыніцай радасьці й надзеі ёсьць для мяне плён Вашага таленту, ведаў, натхненьня. Дай Вам Божа новых сілаў! Бяз Вас «паралельнае жыцьцё без Радзімы на Радзіме» сталася б суцэльнай зморай!

Агромністай зьявай для мяне стаўся пачатак публікацыі Дантэ ў перакладзе Алега Мінкіна!!! Мае віншаваньні Паэту! Як я марыла прачытаць «Боскую камэдыю» па-беларуску! І вось пачало збывацца... Вывучыла напамяць, чытаю й тлумачу знаёмым... І вельмі спадзяюся, што «НН» надрукуе ўсю Паэму...

«Старэйшыя браты» на Беларусі гэтай вялікай культурнай падзеі пакуль «не заўважылі» — знак таго, што й Дантэ для іх — «сярод іншых»... Сумна...

Жыву прадчуваньнем радасьці новых сустрэч з «НН» у 1994-м, хоць, здаецца, нас ужо чакае новая трагедыя...

Але ж, няхай будзе воля Твая!

Жывіце з Госпадам!

*Клаўдзія Анісава*

мястэчка Сьвіслач
Пухавіцкага р-ну.

Паважаныя Спадары!

Учора атрымала №15, 1993 і чытала газэту зь вечара чуць ня цэлую ноч. Што й казаць, зьмест газэты цікавы, змушае думаць, часам не згаджацца з аўтарам, часам дзівіцца яму. Ды гэта не зьмяншае вартасьці газэты.

Адно, што мяне неяк дзівіць, турбуе, гэта нэгатыўнае стаўленьне «Нашай Нівы» да палітыкі, як да нечага бруднага, паніжаючага культурнага беларуса, асабліва тога, які імкнецца на захад, на шырокі сьвет, які пагарджае некультурнасьцю беларуса, што здольны толькі «плакаць, а не аналізаваць».

Але чаму гэты беларус, што здольны толькі плакаць, а не аналізаваць, ёсьць такі? А таму, гэта кожнаму ведама, што беларус не гадаваўся ў незалежнай беларускай дзяржаве, а пад акупацыяй, і вечнай мэтай акупанта было не дапусьціць беларуса да асьветы. Усім ведама, што культура народу нармальна разьвіваецца толькі ў незалежнай дзяржаве гэтага народу... І нічога, паверце, не паможа адноўленая «Наша Ніва» зь яе артукуламі аб «Боскай камэдыі». Дарэчы, аб «Боскай камэдыі» нас вучылі ў польскіх гімназіях. Там нас ня вучылі толькі гісторыі культуры беларускага народу. Чаму? Проста, бо ён быў не дзяржаўны, бо Беларусі ня было, казалі, а значыць ня было й яе культуры. Настаўнік ніяк не хацеў запісаць, што мая родная мова Беларуская, намагаўся пераканаць мяне, што яна польская, калі я ўпарта не згаджалася, ён запрапанаваў напісаць, што расейская, бо расейская, тлумачыў, прыгажэйшая. Я поўная ўжо злосьці кажу: пішэце, што францускае, бо кажуць, што французкая найпрыгажэйшая. Настаўнік зчырванеў, а я зьбялела й гатова была на яго кінуцца.

Не, Даражэнькія, што нам патрэбна перадусім, каб разьвіваць беларускую культуру, гэта незалежнасьць Беларусі. І незалежнасьць мы не здабудзем без палітыкі, без палітыкаў...

«Наша Ніва» 1906-га году праклала сьцежку да Акту 25 Сакавіка. «Наша Ніва» 1991-га году павінна пракладаць сьцежку да незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Гэтага я Вам з цэлага сэрца жадаю.

*Раіса Жук-Грышкевіч*

Бэры, Канада.

P.S. На гэтым трэба было-б закончыць ліст, але-ж прэцца думка яе выразіць. Скажаце, як ужо й казалі, што «Наша Ніва» не займаецца палітыкай і не прызначана для шырэйшых масаў беларускага народу, якога ў школах ня вучылі гісторыі Беларусі, а казалі, што такое няма, што «НН» прызначана доля беларускае інтэлігенцыі «Dla towarzystwa wzajemnej adoracyi», гэта ўсё добра й нармальна, толькі Вашая газэта, на маю думку, не павінна тады прэтэндаваць на прадаўжэньне традыцыі «Нашай Нівы» 1906-га году, і не павінна цяпер называцца «Нашай Нівай». Я магу памыляцца...

*Р.Ж-Г.*

# Ад Рэдакцыі

Рэдакцыя «Нашай Нівы» шчыра дзякуе сваім сталым карэспандэнтам, а таксама ўсім, хто павіншаваў нас з Калядамі й Новым годам. Асабліва дзякуем спадарыні Р.Жук-Грышкевіч за дасланую кнігу «Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча».

У Новым годзе мы пойдзем тым шляхам, які быў вызначаны ад першых нумароў: пашыраць вольную думку, густоўнае слова й здаровы настрой як на Беларусі, так і ў шырэйшым сьвеце. Нам цікава рабіць газэту люстэркам жыцьця, жывое чалавечае душы, у якой ёсьць месца й палітыцы й «Боскай камэдыі», простым памкненьням, спакусам ды памылкам і складаным філялягічным практыкаваньням. Незалежнасьць Беларусі — гэта працэс, цяжкі й заблытаны. І вывесьці яго на роўны шлях можна толькі праз валявыя крокі, улік досьведу суседзяў ды спэцыфічных рысаў нашага народу й гісторыі. Якраз пра гэтыя рэчы мы пішам і будзем пісаць надалей, імкнучыся пазьбягаць дылетанцтва й дыдактыкі. Нас цікавіць навуковае й мастацкае дасьледаваньне розных аспэктаў незалежнасьці й працяглае акупацыі Беларусі, якая пачалася ў XVIII ст. Якраз апошняя тэма, паводле нашых плянаў, будзе дамінаваць у паліталягічных рубрыках «Нашай Нівы» ў новым годзе. Але гэта толькі невялікая частка нашых плянаў. Чакаем Вашых лістоў. Заставайцеся разам з намі.

«НН»

# Фундатары «НН»:

*А.Здановіч (Вялікабрытанія) £20*
*Ю.Весялкоўскі (Вялікабрытанія) £15*

Вялікі дзякуй!

НАША НІВА №1(19) Беларуская газэта. Заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Рэдактар Сяргей Дубавец. Выдавец Павал Жук. Адрасы для допісаў: 2041 Вільня а/с 2082 і 220182, Менск а/с 71. Падпісны індэкс у Літве: 67233, на Беларусі: 63125. Рэдакцыя (Вільня, Жыгімонта 12/2): Алег Мінкін (адк. сакратар), Сяргей Шупа (літ. рэдактар), Сяргей Харэўскі (маст. рэдактар). Менскае бюро (Менск, Іванаўская 56): Алег Дзярновіч (загадчык), Ігар Бабкоў (дыскурс). Рэдакцыйная Рада: Уладзімер Арлоў, Сяргей Астраўцоў, Адам Глёбус, Лявон Луцкевіч, Генадзь Сагановіч, Алесь Чобат. Афсэтны друк. Фармат А3. Агульны наклад 20 тыс. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку» (220041 Менск, праспэкт Ф.Скарыны, 79) Замова 126

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12